# Сэнс савецкіх прапановаў „рэарганізацыі“ ЗН

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

тар ЗН сам разьвязваў такія пытаньні, як: «колькі войск пасылаць у Конга, на якія тэрміны, на якіх умовах, якія краіны павінны высылаць туды збройныя сілы», — у той час, як у статуце ЗН, — адзначала савецкая крытыка — «дзеяньні, патрэбныя дзеля выкананьня пастановы Рады Бясьпечнасьці, прадпрыймаюцца ўсімі сябрамі арганізацыі або некаторымі зь іх, у залежнасьці ад таго, як гэта абазначыць Рада Бясьпечнасьці» («Международная жизнь», № 8, 1961, бб. 49-,50). Высылка-ж Гамэршыльдам із собскае ініцыятывы місіі ў Ляос дзеля абсьледваньня «нутрана-партыйнага змаганьня, якое там разгарнулася», зьявілася, на думку савецкага боку, перавышэньнем улады, таму што згодна статуту ЗН сакратарыят ня мае права ні пасылаць із сваей ініцыятывы місіяў, ні забясьпечваць іх сяродкамі й пэрсаналам. Дзеля гэтага патрэбная, згодна савецкай інтэрпрэтацыі, пастанова Рады Бясьпечнасьці.

Адным з далейшых довадаў савецкі бок высоўвае факт «аднабокага складу» кіраўнічых працаўнікоў сакратарыяту (заступнік сакратара й тры г. зв. галоўныя дырэктары), разумеючы пад аднабокасьцяй дамінацыю на гэтых становішчах прадстаўнікоў ад краінаў Атлянтычнага абароннага саюзу на некарысьць нэўтральным і асабліва камуністычным прадстаўнікам. Напасьледак, савецкі бок высоўвае пад адрысам сакратарыяту ЗН абвінавачаньне ў незаконным фінансаваньні апэратыўных расходаў ЗН (утрыманьне войскаў ЗН у Конга й на Блізкім Усходзе за сяродкі рэгулярнага бюджэту ЗН).

Усе гэтыя абвінавачаньні маюць на мэце давесьці засільле ўплываў ЗША ўва ўсіх органах ЗН і праводжаньне генэральным сакратарам Гамэршыльдам спэцыяльна праамэрыканскай палітыкі. Яны паказваюць і запраўдную прычыну савецкай крытыкі. Гэтак, ліквідацыя сыстэмы аднаасабовага сакратара ЗН выкліканая немагчымасьцяй для савецкага боку правесьці пры гэтай сыстэме на гэтае становішча камуністычнага прадстаўніка. «Тройка»-ж аўтаматычна забясьпечвае камуністычнаму блёку адну трэйцюю выканальнай улады над ЗН і магчымасьць у любы мамэнт параліжаваць сваім «вэто» кажную акцыю ЗН.

Такія-ж неабаснаваныя й іншыя абвінавачаньні, высоўваныя Саветамі. Гэтак, гаворачы аб нарушэньні літары статуту ЗН у выпадку высылкі місіі сакратарыяту ЗН у Ляос і ягонай дзейнасьці ў Конго, савецкая крытыка прамоўчвае тое, што гэтая місія раскрыла ў Ляосе запраўдны характар таго зьявішча, якое савецкае кіраўніцтва дыпляматычна называла «нутранапалітычным змаганьнем». У запраўднасьці-ж гэта была дывэрсійная дзейнасьць камуністычных партызанаў, закінутых звонку ў Ляос (з паўночнага камуністычнага Ветнаму), г. зн. скрытае ўмяшаньне звонку ў справы нэўтральнай краіны. Разьлічваць на тое, што Рада Бясьпечнасьці, дзе Саветы маюць права «вэта», дала-б сваю згоду на высланьне місіі, Гамэршыльд ня мог. Між тым сакратарыят ЗН, згодна статуту ЗН, забавязаны «даводзіць да ведама Раду Бясьпечнасьці аб усякіх пытаньнях, якія на думку сакратара могуць загражаць міру й бясьпечнасьці» (артыкул 99 статуту ЗН). Прыродна, што «даводзіць да ведама» Раду Бясьпечнасьці можна толькі будучы інфармаваным. Гэткая была дылема, якая стаяла ў 1959 годзе перад сакратаром ЗН, і разьвязаў ён яе ў духу статуту ЗН, хаця быць можа й супярэчна ягонай літары. Яшчэ больш нелягічная й тэндэнцыйная крытыка дзейнасьці сакратарыяту ЗН пры падзеях у Конго. Абвінавачаньне ў тым, што войскі ЗН не аказалі помачы «законнаму» ўраду Люмумбы ў ягоным нутраным змаганьні зь іншымі прэтэндэнтамі на ўладу ў Конго (Касавубу, Мабуту, Чомбэ, Ілео) абазначае патрабаваньне ўмяшаньня ЗН у змаганьне на тым або другім баку. Пры нутраным хаосе ў краіне абавязкам войскаў ЗН зьяўляецца ўстанаўленьне парадку й стварэньне працаздольнага ўраду.

Але ў той-жа час з боку савецкага ўраду ня было ніводнага пратэсту з прычыны нядаўняй акцыі вельмі сумлеўнага характару таго-ж сакратарыяту ЗН пры спробах прымусіць войскамі ЗН незалежную правінцыю Катанга падпарадкавацца цэнтральнаму ўраду Конга, хаця гэтая правінцыя адзіная з усіх захоўвала ўвесь час парадак, працаздольнасьць і цьвёрдую адміністрацыйную структуру ў процілегласьць разьдзіраным анархіяй іншым правінцыям Конга.

Пры гэтым савецкі бок, абвінавачваючы сакратарыят і асабіста Гамэршыльда ў фармальным нарушэньні літары статуту ЗН, наўмысьля прамоўчвае галоўнае — бесьперапынныя нарушэньні савецкім бокам усяго **духа** статуту ЗН. Гэтае нарушэньне выражаецца ў сыстэматычным сабатажы ўрадам СССР і ягонымі камуністычнымі сатэлітамі ўсіх мерапрыемстваў ЗН у дачыненьні да галоўнай мэты ЗН: спыняць узьнікаючыя ў сьвеце палітычныя й ваенныя канфлікты, замяняючы сілу пагадненьнем і арбітражам. Палітыка Савецкага Саюзу ў пэрыяд разьвязаньня карэйскага канфлікту, пры здушэньні паўстаньня ў Вугоршчыне, пры падзеях на Блізкім Усходзе ў 1956-1958 гг., пры мерапрыемствах ЗН ў Конга наглядна аб гэтым сьветчыць.

Ня менш характэрнае й фінансавае сабатаваньне ЗН з савецкага боку. Паводля дадзеных сакратарыяту ЗН, 74 дзяржавы з 99 ня ўнесьлі належных зь іх складак на ўтрыманьне войскаў ЗН на Блізкім Усходзе (у вадхіленьні арабска-ізраэльскіх камплікацыяў), а 37 дзяржаваў зусім адмовіліся плаціць складкі на ўтрыманьне войскаў ЗН у Конга. У ліку гэтых неплацільнікаў знаходзіцца ўвесь камуністычны блёк. Цяжкасьці ў пакрываньні бюджэту ЗН перамагаюцца да апошняга часу тым, што галоўны цяжар расходаў бралі на сябе ЗША, якія ўнесьлі каля аднэй трэйцяй усей сумы, неабходнай для акцыі ЗН на Блізкім Усходзе й Конга.

Цяпер Хрушчоў, дамагаючыся ўвядзеньня прынцыпу «тройкі», ў сакратарыяце ЗН, афіцыйна выступае ня толькі абаронцам інтарэсаў камуністычнага блёку, але й нэўтральных краінаў Азіі й Афрыкі. Пры дапамозе іхных галасоў на Генэральнай Асамблеі Хрушчоў разьлічвае правесьці й рэарганізацыю ЗН. Ня прыпадкова, што пачатак станоўчага наступу на сакратарыят ЗН зьбегся з прыняцьцем XV сэсіяй Генэральнай Асамблеяй (1960) вялікай групы нэўтральных краінаў афрыканскага кантынэнту. Гэтым мэтам служылі й грубыя напады Хрушчова на Гамэршыльда.

Першая спроба Хрушчова на XV сэсіі Генэральнай Асамблеі ЗН абясьсіліць сакратарыят ЗН ня мела посьпеху. **Ці** другая савецкая спроба на цяперашняй Асамблеі ЗН укаранецца посьпехам, у значнай меры будзе залежыць ад прадстаўнікоў нэўтральных краінаў. Іхныя галасы могуць вызначыць лёс праекту Хрушчова. Такім чынам адказ на гэтае пытаньне будзе залежыць ад таго, ці зразумеюць нэўтральныя краіны, што ў іхным палажэньні трэйцяе сілы між двума сільнымі блёкамі, сілы, якая яшчэ ня мае магчымасьці ў розыгрышах сьветавай палітыкі йсьці собскімі шляхамі, камуністычны наступ на ўвесь сьвет не пакідае ім ніякай магчымасьці сувэрэннага існаваньня без падтрыманьня лібэральных сілаў Атлянтычнае супольнасьці. Нядаўні дэманстрацыйны салют сэрыяў савецкіх атамных выбухаў, які прадумана зьбегся з канфэрэнцыяй нэўтральных дзяржаваў у Белградзе, павінен быў-бы даць нэўтральным краінам прадстаўленьне аб тым націску, пад які будуць яны падпадаць у выпадку іхнага супраціву быць спадарожнікамі якраз камуністычнай палітыкі ў ЗН.

«Тройка» сакратароў, радам з паралізаваньнем усякай працаздольнасьці ЗН, абазначала-б пачатак паглынаньня камунізмам трэйцяй, нэўтральнай сілы ў сьвеце.

Адбіцьцё новага савецкага наступу на ЗН, калі яно навет і будзе мець месца на цяперашняй сэсіі Генэральнай Асамблеі, ня будзе яшчэ абазначаць канца крызісу. Гэты крызіс будзе вельмі задоўжанага характару. Выбар часовага сакратара ЗН будзе толькі кампрамісовай, пераходнай і вельмі няцьвёрдай пастановай. З ростам палітычнай і ваеннай магутнасьці Савецкага Саюзу перад ЗН стаіць наагул цяжкі й няўстойлівы пэрыяд існаваньня.

(З «Аналізу бягучых падзеяў у СССР» Інстытуту Вывучэньня СССР, № 194, 3. 10. 1961).

# Тэндэнцыйнае правасудзьдзе

Нядаўна ў Менску закончыўся судовы працэс над 13 асобамі, абвінавачанымі ўва ўдзеле ў злачынствах, учыненых у часе Другой сусьветнай вайны карнікамі спэцыяльнага батальёну СС на акупаванай нямецкім войскам тэрыторыі Беларусі. Усе 13 абвінавачаных былі засуджаныя на сьмерць.

Вярхоўны суд БССР абвінаваціў падсудных у забойстве дзесяткаў тысяч цывільнага насельніцтва Магілёўскай вобласьці.

Ня будзем спрачацца над тым, ці гэтыя 13 асобаў запраўды маглі сьведама й на ўласную руку зрабіць такія вялікія злачынствы. Фактам ўсё-ж застаецца тое, што ў часе ваеннай завірухі на нашай бацькаўшчыне разыгрывалася страшная трагедыя, якая каштавала жыцьцё тысячам і сотням тысяч у нічым невінаватых людзей. Але фактам застаецца таксама і тое, што вінаватымі ў гэтым былі ня толькі тыя, каго савецкая ўлада саджала і саджае сёньня — 16 год пасьля заканчэньня вайны — на лаву падсудных і засуджвае на сьмерць. За гэтыя злачынствы — проста ці ўскосна — у ня меншай меры вінаватыя і тыя, якія сёньня абвінавачваюць і судзяць. Ведама, што калі некаторыя асобы з мясцовага насельніцтва пайшлі дабраахвотна служыць у нямецкія вайсковыя аддзелы, дык здаралася гэта найчасьцей таму, што імі кіравала, часам, зусім абгрунтаванае жаданьне помсты за зьдзек над імі самымі й над іхнымі роднымі, зьдзек, які бальшавіцкая ўлада ў мірны час чыніла над усім беларускім народам і руйнавала ў людзей веру ў існаваньне законнасьці і справядлівасьці.

З другога боку, вялізарныя злачынствы эсэсаўцаў над мірным беларускім насельніцтвам былі вынікам ня толькі агульнай палітыкі Гітлера, але й тэй правакацыі, якую мясцовыя і закінутыя праз фронт камуністычныя партызаны праводзілі на тэрыторыі Беларусі з мэтай нацкаваць нямецкіх акупантаў на цывільнае насельніцтва, каб перацягнуць яго ў свой лягер. Добра ведамыя нам таксама і зьверствы савецкіх партызанаў, якія складаліся ў вялікай меры, як наглядна паказаў і прыгаданы судовы працэс, зь людзей нізкай маральнай якасьці. Як паведаміла савецкая беларуская прэса, 9 з 13 засуджаных у 1943 годзе пакінулі эсэсаўскі батальён і

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

# Злачынны, але незьдзяйсьняльны плян

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

і статуту КПСС. Як і трэба было чакаць, XXV зьезд КПБ аднагалосна ўхваліў гэтыя праекты бязь ніякіх істотных зьменаў. Што-ж — гэтага вымагае камуністычная «дэмакратыя».

Другі сакратар ЦК КПБ Сурганаў, у сваім дакладзе аб новай праграме КПСС, прысьвяціў тэме нацыянальных узаемадачыненьняў некалькі красамоўных сказаў. «Ня трацячы сваіх нацыянальных асаблівасьцяў, гаварыў ён, нацыянальныя культуры народаў СССР узаемна ўзбагачваюцца, зьліжаюцца на базе сацыялістычнай ідэялёгіі. **Разьвіваецца агульная для ўсіх савецкіх нацыяў інтэрнацыянальная культура**. . .Кампартыя Беларусі бачыць сваё заданьне ў тым, — працягваў Сурганаў, — **каб праводзіць прынцыпы інтэрнацыяналізму ў галіне нацыянальных узаемадачыненьняў . . ., не паслабляючы змаганьня супраць праяваў перажыткаў нацыяналізму . . .»**

Кажнаму ведама, што ў бальшавіцкай тэрміналёгіі **«нацыяналізм»** азначае патрыятызм нерасейскіх народаў, як супрацьстаўленьне да гэтак званага «савецкага патрыятызму», інакш кажучы — сьляпога падпарадкаваньня Маскве.

Крамлёўскі стаўленік Сурганаў гэта толькі пацьвердзіў. Ён аднак не адважыўся закрануць пытаньне аб **мове** гэтак званага «будуючага камуністычнага грамадзтва» ў СССР. Мова-ж зьяўляецца адным з асноўных элемэнтаў кожнай нацыянальнай культуры. «Мова — душа народу», — такія загалоўкі мы сустракаем — ці, прынамся, сустракалі дасюль — і ў беларускай падсавецкай прэсе. Аўтары артыкулаў з падобнымі загалоўкамі звычайна паклікаюцца на Леніна. Што-ж яны могуць сказаць цяпер?

У праекце новай праграмы выказваецца ўпэўненасьць, што, маўляў, на працягу параўнальна кароткага часу бальшавікам удасца сьцерці межы паміж пасобнымі рэспублікамі ўва ўсіх, бадай, галінах жыцьця, **апрача моўнай** — і тут ў праекце адчуваецца проста такі жаль з гэтай прычыны: 20 год, маўляў, замалы тэрмін на «зьліцьцё» моваў. У праекце не пакідаецца таксама ніякага сумліву, што пад «зьбліжэньнем» і «зьліцьцём» моваў разумеецца растапленьне іх у мове расейскай. У дыскусіі-ж на XXV зьезьдзе КПБ ніхто не закрануў гэтага пытаньня навет ускосна. Не закрануў яго і такі «носьбіт беларускай культуры», як старшыня праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў БССР Пятрусь Броўка . . .

Вось тыя вехі, якія выставіла Масква на шляху да гэтак званага камунізму. Аднак, якім-бы магутным ні быў апарат партыйнага тэрору, ён ня здолее дасягнуць пастаўленае мэты, як ня здолелі дасягнуць падобных мэтаў іншыя таталітарныя ці каляніяльныя рэжымы. Мэта бальшавіцкай Масквы тым больш недасягальная, бо яна ставіць сабе заданьне на працягу кароткага часу растапіць у сваёй імпэрыі й зьнішчыць дзесяткі культурных народаў. І гэта ў той час, калі сьвет перажывае стыхійны рух за палітычную і гаспадарчую незалежнасьць ды культурнае адраджэньне найбольш адсталых народаў.

Гэты рух ня спыніцца й перад межамі Савецкага Саюзу.

---

Памятаецца, Шарль моцна расчуліўся слухаючы гэтую няхітрую, але такую мілую народную мэлёдыю, і хутка, ня утрымаўшыся, сам пачаў падцягваць Казіку. Можа гэтыя песьні тады найбольш і зьблізілі іх. Ува ўсякім разе, далей яны сьпявалі «Рэчаньку» разам, абняўшыся, як даўнія сябры.

І вось, помніцца, расчулены Шарль раптам павярнуўся да Казіка й спытаў:

— Ну, а каханую ты маеш? Любіш каго-небудзь? — Шарль спытаў гэта й адразу неяк дзіўна прыціх, стаў задуменны.

Казік засьмяяўся й пажартаваў, што вось, маўляў, на гэтым фроньце ў яго яшчэ пакуль што поўнае зацішша, сэрца яго незанятае. Ёсьць у яго шмат знаёмых дзяўчат, і ён сябруе зь імі, але гэта не каханьне, а толькі дружба. Адным словам, ён яшчэ ня сустрэў такой, якая-б, як кажуць, запаліла ў яго душы той вялікі, нязгасны агонь . . .

Тады Шарль, срогі, сур'ёзны, з раптам пасмутнелымі вачыма, абняў за плечы Казіка, даверліва нахіліўся да яго й спытаў:

— А скажы, дружа, ёсьць на сьвеце імгненная любоў? Ты верыш у моцнае каханьне зь першай сустрэчы ? . .

Усё з той-жа жартаўлівай усьмешкай Казік прызнаўся, што, ня маючы вялікай практыкі ў гэтых справах, яму цяжка адказаць на такое пытаньне. Але ён мяркуе, што такое каханьне наўрад ці магчымае, ён мала верыць у яго сур'ёзнасьць. Людзі, вядома, могуць раптам спадабацца адзін аднаму, але для таго, каб узьнікла сапраўднае каханьне, яны павінны добра ведаць адзін аднаго. А раптам выявіцца, што ў іх няма ніякіх агульных інтарэсаў, — тое іх першапачатковае, як кажа Шарль, імгненнае захапленьне адразу-ж рассыплецца, каханьня ня будзе . . .

— Не! — ускрыкнуў Шарль і ўвесь адкінуўся ад Казіка. — Ты ня правы, мой дружа, ня правы ! . .

Убачыўшы, што пытаньне, да якога ён адносіўся амаль з жартам, пасапраўднаму хвалявала маладога француза, Казік перастаў усьміхацца. І тут Шарль шчыра расказаў яму, што вось, едучы сюды, у Маскву, ён па дарозе пакахаў адну дзяўчыну, Жану Дапад'е, таксама ўдзельніцу фэстывалю зь іхнай-жа францускай дэлегацыі, якую ён упяршыню сустрэў. І ён перакананы, што гэтае яго каханьне — на ўсё жыцьцё ! . .

За гэтую сваю беспасярэднасьць, шчырасьць Шарль у той вечар моцна спадабаўся Казіку, і скончылася тым, што яны пасяброўску абмяняліся адрысамі. З тых дзён мінула ўжо шмат часу, але Шарль, аказваецца, не забыўся пра Казіка, і вось першы напісаў ліст . . .

Казік ачнуўся ад успамінаў, якія прамільгнулі перад ім кароткімі малюнкамі, у руху і яркіх, як у калейдаскопе, хварбах, і рвануў краёчак канвэрта . . . Разгарнуў ліст, паглядзеў і весела зарагатаў:

— Ой, не магу, Ірынка! А як-жа мы з табой яго прачытаем?

— Пакажы, пакажы! — Дзяўчынка выхапіла з рук Казіка ліст, прыгледзелася й таксама засьмяялася, шчыра, залівіста. — І праўда, як-жа яго чытаць ? . .

— Хіба будзем так гадаць, як у той байцы няпісьменныя батракі панскую запіску чыталі, — жартам прапанаваў Казік. — Кружочак, значыць пра гарох напісана, доўгенькае вусаценькае — пра ячмень . . .

Яны ўзноў абодва весела й шчыра засьмяяліся.

— Эх. Шарль, дружа мой, — пакручваючы пісьмо, лятуценна ўздыхнуў Казімір. — Ну і задаў ты мне задачку! І што ён тут піша ? . .

— Чакай, Казік! — раптам схапілася Ірынка. — Давай зараз паедзем да нас у школу, папросім нашага «немца», Глеба Арцёмавіча. Можа ён і па-францускy разумее?

— Гэта якога-ж Глеба Арцёмавіча? — удакладніў Казік. — Таго адстаўнога «марскога воўка» ? . .

— Ну так! Ён-жа нам расказваў, што на караблёх увесь сьвет аб'езьдзіў . . .

— А што ты думаеш! Магчыма, ён «банжур» ведае . . . Паехалі!

Абнадзееныя Казік і Ірынка рашуча пакрочылі к дубу, да матацыкля. Рэзка тузануўшы нагою рычаг, Казік завёў матацыкль, сеў на сядло. Ззаду за ім, на меншае сядло спрытна ўскочыла Ірынка, — відаць, езьдзіць з Казікам было ёй ня ўпершыню. Бачура яшчэ з хвіліну пастаяў, паглядаючы, як працаваў малады трактарысты. Убачыўшы, што ў таго усё было ў парадку, трактар ішоў па палетку роўна й лёгка, Казік павярнуўся да Ірыны і, перакрыкваючы трэск матору, голасна гукнуў:

— Ну, трымайся, паехалі ! . .

Дзяўчынка ўхапілася за плечы Казіка, і матацыкль, плаўна крануўшыся зь месца, пабег па полі да дарогі.

Дарога была роўная, торная, матацыкль імчаўся хутка, і хвілін праз дзесяць-дванаццаць Казік і Ірына падкацілі да новага, зь вялікімі сьветлымі вокнамі будынку школы. Гарачае майскае сонца прыпякала амаль зусім па-летняму, і ад драўляных сьцен школы ішоў духавіты пах сьвежай смалы.

Казімір паставіў матацыкль каля ганку й пасьпешліва падняўся зь Ірынай па ўсходках школы. Але, як хутка выявілася, Глеб Арцёмавіч, гэты бывалы чалавек, у мінулым марак далёкага плаваньня, а цяпер, на сьхіле год, сьціплы выкладчык нямецкай мовы, таксама ня ведаў па-францускy. Ня ведалі францускай мовы й іншыя настаўнікі, у бальшыні моладзь. Усе разам яны сабраліся ў настаўніцкай і, праяўляючы вялікую зацікаўленасьць, пачалі думаць і ўспамінаць, хто-б у іхных Ламачох мог прачытаць гэты ліст. Але колькі не ўспаміналі, знаўцы францускай мовы не знаходзіліся. Нямецкую мову ведалі ў сяле многія, два чалавекі ведалі ангельскую мову, а адзін — мясцовы лекар, былы ўдзельнік інтэрнацыянальнай брыгады ў Гішпаніі — ведаў навет гішпанскую, але францускай, як на злосьць, ня ведаў ніхто.

Заклапочаны, Казімір прымоўк, задумаўся, — ліха ведае, як яму ўсё-ж прачытаць гэты ліст?

— Во, успомніў! . . — выгукнуў раптам дырэктар школы Пятрэнка, малады, але ўжо таўставаты мужчына зь бялесымі, як лён, брывамі. — Відаць, давядзецца табе, Казімір Іванавіч, у Тарушу зьезьдзіць. — Нядаўна там у сярэднюю школу прыехала адна настаўніца францускай мовы. Ні то Асташэнка, ні то Асташонак. Давай зараз пазвонім.

Пятрэнка, а за ім Казік зь Ірынкай пайшлі ў маленькі дырэктарскі кабінэт, дзе на сьцяне над сталом вісеў тэлефон. Ня мінула й колькі хвілін, як Пятрэнка дзваніўся да Тарушы, раённага цэнтру, зьвязаўся зь першай школай і навет пагаварыў з гэтай самай настаўніцай францускай мовы. Звалі яе, аказваецца, Ніна Пятроўна Асташонак. Настаўніца ахвотна згадзілася перакласьці ліст, толькі сказала, што лепш за ўсё было-б зрабіць гэта сяньня, таму што заўтра ў яе будзе заняты амаль увесь дзень.

— Вось і добра, зрадаваўся Казік і, разьвітаўшыся з настаўнікамі, выйшаў на вуліцу.

# Па дарозе Усева

Беларусы Парыскай калёніі зь першых дзён весткі аб сьмерці Ўсевалада Краўчанкі зрабілі адразу адпаведныя крокі дзеля дакладнейшага выясьненьня прычынаў і абставінаў гэтае трагэдыі, як аднае з трагэдыяў беларускіх падсавецкіх пісьменьнікаў, якая разыйгралася, на гэты раз, на ваччу вольнага сьвету.

Паводля газэтных паведамленьняў, што былі зьявіліся ў днях ад 29-га жнівеня па 2-га верасьня амаль што ўва ўсіх парыскіх штодзёньніках (за вылучэньнем, зразумела камуністычных), было рызыкоўна рабіць нейкі канкрэтны і ясны вывад. Некаторыя з гэтых газэт, як прыкладам «Ле Монд», «Фігаро» і іншыя абмяжоўваліся да вельмі ляканічных паведамленьняў аб самым трагічным выпадку савецкага пісьменьніка, тры іншыя вялікія парыскія штодзёньнікі: «Пары Прэс» ад 29-га жніўня, «Пары жур» ад 1-га верасьня і «Франс Суар» ад 2-га верасьня, хоць і прысьвяцілі вялікія артыкулы («Пары жур» пад буйным загалоўкам 2-х сантымэтровых літараў на шырыню 5-ці калёнак, а «Франс Суар» яшчэ буйнейшымі на шырыню 6 калёнак), у сваіх камэнтарах, як цытаваньні пакінутага Краўчанкам перадсьмяротнага ліста, моцна разыходзіліся. Паводля адных выглядала, што пісьменьнік, расчараваны ў камунізьме, але ня важучыся «выбраць свабоды», пакончыў самагубствам паводля другіх выказваліся дапушчэньні што Краўчанку скінулі з паверху правакатары-энкавэдыстыя, западозрыўшы яго ў намеры ўцёкаў.

Апрача трагічнай сьмерці Краўчанкі, падавалася ў бальшыні газэт і вестка аб уцёках, як быццам недзе падарозе з Кан да Парыжа яшчэ дзьвюх асобаў з гэтае групы турыстых.

Актыў беларускай парыскай калёніі паставіў быў сваім заданьнем у першую чаргу высьвятліць справу ўцёку тых двух турыстых, каб у выпадку спраўджэньня гэтага даць ім як найхутчэй належную дапамогу. Зроблены былі ўсе магчымыя захады перад адпаведнымі францускімі ўладамі, выясьніць адылі мала чаго ўдалося, бо, як выявілася, дасьледжаньне ўсяе гэтае справы было даручана мясцовым сьледчым органам (у Кане).

Пастаноўлена таму было адправіць нашу дэлегацыю на месца трагэдыі ў Кан, спадзяючыся даведацца ад мясцовага там насельніцтва, а мо й мясцовай паліцыі нечага больш, а разам з тым, калі дазволяць абставіны, ускласьці вянок на фатальнае месца беларускага пісьменьніка ад імя ягоных суродзічаў на чужыне, дзе і ён склаў сваю галаву, найсільней пратэстуючы на ўвесь сьвет супраць жудаснага тэрору нашага нялюдзкага акупанта.

У суботу 7-га кастрычніка тры прадстаўнікі беларускай парыскай калёніі, у тым ліку й аўтар гэтых радкоў, як карэспандэнт «Бацькаўшчыны», адправіліся ў Кан самаходам па тэй самай дарозе, па якой выехалі былі з Парыжу ў Нармандыю савецкія турыстыя 27-га жніўня, раніцай, на расьсьвеце, аўтакарам, нанятым у кампаніі «Турызм Францыі», кіраваным сваім собскім даверамым шафэрам — старым расейскім эмігрантам з Парыжу.

Мы выехалі ад гатэлю «Оцэанік», тага самага гатэлю (што каля вакзалу Сан Лязар), дзе апошнюю ноч спаў Краўчанка із сваімі сябрамі й дзе, найбольш праўдападобна, ужо быў вырашаны ягоны фатальны лёс...

Дарога з гэтага цэнтру Парыжу ў Нармандыю прайходзіць праз маляўнічыя парыскія ваколіцы: Нэі, Мэзон Ляфіт — узгорыстая мясцовасьць, з узгоркаў якіх адкрываюцца цудоўныя панарамы з багатымі пышнымі віллямі, палацамі, асабліва зь левага боку — мясцовасьць Сан Жэрмэн, дзе, да рэчы, знайходзіцца й прыватная рэзыдэнцыя генэрала дэ Голя. Усё гэта зьліваецца з Парыжам у вадзін нейкі каласальны канглямэрат аграмадзіны 8-мі мільённага гораду гіганта...

Па нейкіх 60—70 кілямэтрах зьвілістай як зьмяя зызгагамі дарогі, што выкручваецца з далінаў на ўзгоркі — раптам дарога гэтая выроўніваецца ў простую, як страла, лінію, але яна затое яшчэ глыбей часамі западае ў даліну — то ўзносіцца на крутую гару — і гэта ўжо весь Нармандыя. Нармандыя, да рэчы, гэта адна з маляўнічых правінцыяў Францыі і носіць агульна прызнаны назоў «паўночнай Швайцарыі Францыі». Але правінцыя гэта, што складаецца аж з 4-х дэпартамэнтаў (дэпартамэнты: Сэн Інфэ'ер, Эр, Кальвадос і Орн), прыцягвае штогоду сотні тысячаў, калі ня мільёны, турыстых — мо' ня столькі прыгожасьцю свае прыроды, колькі багацтвам гістарычных памятнікаў, якімі, як кажуць, як грыбамі ўсеяна Нармандыя ў форме бязьлікіх замчышчаў, цьвярдыняў ды палацаў. Нармандыю нават называюць «музэем Францыі». Лёс гэтае краіны ў гістарычным мінулым хіба што можна прыраўняць з эўрапэйскіх краін да лёсу Беларусі. 540 год на ёй вялося зацятае, бязупыннае змаганьне, даўгія лютыя войны паміж Англіяй і Францыяй за ўладаньне гэтай правінцыяй, лілася кроў. Аж чатыры разы Нармандыя пераходзіла з-пад уладаньня адных да другіх, пачынаючы ад 911 году — і толькі ў 1450 г. яна ўжо канчальна й беспаваротна асталася замацаванай за Францыяй.

У выніку гэтага вяковага змаганьня двух вялікіх і найцывілізаванейшых эўрапэйскіх народаў за гэту правінцыю, у Нармандыі, як памяткі гэтага змаганьня, і засталося такое мноства вялікіх замчышчаў, цьвярдыняў ды палацаў — так багатай і прыгожай архітэктуры зь сярэдніх вякоў.

Але наш «шафэр» не ўглядаецца на бакі, ён быццам прыліпшы да руля, намагаецца імчацца з усяе сілы, каб як найхутчэй дастацца да таго месца, дзе восі некалькі тыдняў таму ў сэрцы гэтае Нармандыі пралілася й наша беларуская кроў.

Мы, два другія спадарожнікі, часамі перакідваемся думкамі, разглядаючыся па баках, як у кіно прамільгваючыя, абразы то гэных часамі палацаў, то новых безьліч прыгожых віляў, або агромністых новых дамоў-блёкаў для рабочых, то багатых фэрмаў з буйнымі стадамі распасьвіных кароў, валоў, не такіх, пэўне-ж захудалых калгасных.

Цікава, якое гэта ўсё ўражаньне рабіла на нашых бедных савецкіх турыстых? І якое-ж гэта цяжкое для іх заданьне — распісваць потым па павароце да дому аб «убожасьцьве» і «мізэрыі» капіталістычнай Францыі.

У Кан мы ўехалі каля 5-ай г. паабедзе. Гэты 90-тысячны горад уражае вас таксама блескам. Усё новенькае, чысьценькае. У вапошнюю вайну пры падрыхтоўцы высадкі альянтаў, Кан быў дашчэнту збамбардаваны. 85 працэнтаў (як кажуць) дамоў апынулася ў грузах. Цяпер усё адбудавана. Жыцьцё б'ець поўным імпульсам багатага й мадэрнага турыстычнага гораду. Едзем па бульвару — «Рэзістанс», які выглядам адрозьніваецца ад парыскіх «Элізэйскіх палёў» (Шан Элізэ) хіба тым, што ўсе будынкі, як адзін, новенькія. Ніякай затое розьніцы ў багацьці вітрын магазынаў, элегантных гатэляў, шматлікіх турыстычных агенцыяў, бо Кан знаходзіцца ў геаграфічным цэнтры Нармандыі — скуль найчасьцей і разьяжджаюцца па краіне турыстыя.

«Готэль Модэрн» знаходзіцца ў цэнтры гораду на скрыжаваньні шасьці вуліц, уваход да якога з Бульвару генэрала Леклерк'а, пад нумарам 116. Паставіўшы сваё аўта, усхваляваныя ўваходзім у гэты будынак. Ці знойдзецца для нас месца?.. — Ёсьць! Запаўняем мальдунковыя карткі. Адносім свае валізкі ў пакоі, аглядаем гатэль. Будынак як знадворку, так зь сярэдзіны рэпрэзэнтуецца элегантна, салёны, растаран, заля, пакоі — усё досыць прасторнае, чысьценькае, дэкарацыя із смакам, ня бедная, але па тыпу сваім гатэль гэты не належыць да першакляснага тыпу канскіх гатэляў, нат і не да першых з тыпу другое клясы, як нам потым было ўстаноўлена. Цэны параўнальна ня высокія (15 новых франкаў — прыблізна 3 даляры) за пакой, мэню ў рэстаране 3-х катэгорыяў: 3, 4 і 5 даляраў). Парадзіўшыся ў пакоі, з чаго пачаць, пастанавілі тымчасам не падымаць справы з гаспадыняй, а зайсьці дзесь у бліжэйшую кафэйку й загаварыць там, бо хто ведае, якіх яна настроёў. Вышаўшы на вуліцу, мы заўважылі ў пару сот мэтраў касьцёл. Адзін зь сяброў падае ідэю зайсьці найлепш да ксяндза — гэты раён напэўна належыць да яго парахвіі, дык напэўна дастанем найлепшыя інфармацыі і што да паліцыйнай арыентацыі гаспадыні.

У касьцеле слаба асьвечаным выдзяляюцца таўстыя 4-5-ці мэтравыя калёны гэтае сярэднявяковае сьвятыні, каля паўсотні ўкленчыўшых пераважна жанчын, два ксяндзы ціха чытаюць з кніг малітвы, трэйці спавядае. Вычакаўшы мамэнту, падыходзім да аднаго з ксяндзоў, прадстаўляемся, аб'ясьняем мэту візыты. Пробашч касьцёлу ветліва нас заводзіць у закрыстыю, пабожна злажыўшы на грудзях рукі, зь няскрытым жалем, амаль сьлязьмі на вачох і спачуваньнямі да нас расказвае ўсё, што чуў, як была ўспрынята акалічным насельніцтвам нашая трагэдыя, потым дае раду зьвярнуцца да рэдакцыі газэты «Уэст Франс». Гэта найбольшая штодзённая газэта Нармандыі, 4-охпавярховы будынак якой другой падковай замыкае суполны двор «Гатэлю Модэрн», і потым запэўніў нас, што з гаспадыняй гатэлю можам таксама сьмела гаварыць, што яна не належыць да сымпатыкаў камуністых.

Ад пробашча мы даведаліся некалькі дэталяў: што Краўчанка адразу-ж па ўсталяваньню ў гатэлю заявіў, што чуецца вельмі змучаны і таму ня пойдзе на агляд гораду з групай, а возьме ванну й пойдзе спаць. У пакою пад № 66 ён скінуў верхнюю адзежу, панчохі, відавочна, каб не навесьці падазрэньня на свайго сябра па пакоі, і затым, вышаўшы ў ванну, што знаходзілася на 4-ым паверсе гатэлю, выкінуўся на тэрасу гаражу. Пакінуў ліст-тэстамэнт, але яго былі забралі ягоныя сябры, з чым потым паліцыя мела шмат клопатаў, каб гэты ліст адабраць. Таксама праваднікі групы вельмі працівіліся паклікаць францускага лекара, але паліцыя яго выклікала.

У рэдакцыі «Уэст Франс» мы засталі толькі аднаго з адказьнейшых рэдактараў (сьботні вечар — рэдакцыя зачыненая), але нажаль больш вестак, як ад ксяндза, ад яго мы не атрымалі, хіба што з дадзеных нам двух нумароў свае газэты з артыкуламі аб Краўчанку нам было лягчэй цяпер адшукаць тое фатальнае вакно й месца, куды зваліўся пісьменьнік. Далей рэдактар выказаў сваю абсалютную ўпэўненасьць, што сьмерць Краўчанкі ёсьць самагубствам, ды даў пры гэтым некалькі карысных нам парад, як далей нам павесьці расьсьледваньне.

Вярнуўшыся ў гатэль, мы пастанавілі вячэраць у «сваім»-жа рэстаране. Мэню ўзялі 3-й катэгорыі, нятолькі зь меркаваньняў ашчаднасьці, а шчэ й дзеля таго, што, судзячы па выбару клясы гатэлю, «кіраўнікамі беларускай групы турыстых» (каб ня лішне ўражаць сваіх людзей заходнеэўрапэйскай роскашшу), мы былі пэўныя, што й мэню ім было выбрана найскрамнейшае. Вось-жа каб паглядзець. Але і гэта мэню складалася аж з 5-ці ходаў, ці як кажуць Француцы «плят».

Скончыўшы зь вячэрай, мы вырашылі падыйсьці да гаспадыні. Жанчына гэтая, хутчэй мужчынскага буйнога касьлявага складу, рашуча й катэгарычна адмовілася даваць нам якія-небудзь інфармацыі, парадзіўшы нам зьвярнуцца да паліцыі. Адмовілася нятолькі паказаць нам пакой Краўчанкі, але й пацьвердзіць нумар пакою, аб якім падавала прэса іменна 66.

Пахадзіўшы шчэ трохі ў горадзе па суседніх кафэйках і вярнуўшыся ў сваё пакоі вызначаныя нам гаспадыняй на першым паверсе (магчыма не бяз мэты, зарыентаваўшыся па запоўненых намі мэльдунковых картках, што мы нейкія недалёкія людзі Краўчанкі, у якіх была пададзеная намі наша нацыянальнасьць — Белорусьен), мы пастанавілі дзеяць «рэвалюцыйна», магчыма і ня зусім карэктна. Але нас брала злосьць на гэту гаспадыню за яе так сама ня зусім, у адносінах да нас, карэктнасьць. Адзін з нашых сяброў пайшоў па паверхах шукаць палажэньня пакою № 66, другі кантраляваў, ці ўсе пакоі ванна, якіх было толькі па аднаму на кажным паверсе, ідуць па тэй самай лініі, каб назаўтра раніцай з панадворку зрабіць адпаведныя фатаздымкі. Было ўстаноўлена, што № 66 пакою зь дзьвярэй зьняты, бо найбольшы нумар апошняга паверху быў 55.

У нядзелю раніцай мае абодвы сябры, змушаныя службовымі заняткамі выехаць да Парыжу, спрабавалі яшчэ нешта «выцягнуць» ад прыбіральніцы нашых пакояў, але, ня гледзячы на непамерна высокі гасьцінец ад'яжджаючых гасьцей (сябра наш адзін сунуў у руку жанчыне аж 500 франкаў), нічога не маглі дабіцца. Мы зрабілі вывад, што відавочна сьледчыя ўлады далі адпаведныя распараджэньні гаспадыні гатэлю не даваць ніякіх інфармацыяў пастаронным людзям. Гэта й пацьвердзілася падчас майго далейшага прабываньня.

У маей праграме на панядзелак было галоўным атрымаць аўдыенцыю ў самага камісара паліцыі, што вёў анкету на месцы гэтага трагічнага выпадку. Маючы перад гэтым вольны цэлы дзень нядзелі, я вырашыў правесьці шырэй апытаньне жыхарства гораду. Абыйшоўшы спачатку каля дзесятку розных буйнейшых і драбнейшых кафэяк розных пунктаў гораду, гэтульк-ж прыблізна адведаў і крамак гандляроў фотаздымак, газэтных кіёскаў, пайшоў тады пад адзін касьцёл, зь якога выходзіла пасьля Божай Службы публіка, і ўсюды прадстаўляючыся беларускім журналістым з Парыжу, звычайна, паводля шаблёну, задаваў пытаньні, што кажны зь іх чуў і што думае аб выпадку з Краўчанкам. З апытаных мною каля 40 асобаў (у бальшыні мужчын) аказаўся толькі адзін (тыпу рамесьніка), які нічога аб гэтым выпадку ня чуў. Але таксама не аказалася ніводнае асобы (навет з апытаных найбліжэйшых ад гатэлю суседзяў), якая была-б сьветкам драмы, а гэта дзеля таго, што найперш трапілася гэта на панадворку ў нядзелю вечарам пры зьмярканьні каля 7-ае гадзіны. На тэрасу гаражу доступ адно праз гатэль, куды хутка, на алярм гаспадыні, за нейкіх 10 хвілін, зьявілася паліцыя й, зразумела,

---

— Вось што, Ірынка, — пастаяўшы хвіліну ў роздуме, сказаў ён. — Ты бяжы дамоў і бярыся за лекцыі, а я, відаць, адразу й махну ў Тарушу. Скажы маці, каб не чакала мяне к абеду. Магчыма, я там затрымаюся гадзіны на тры-чатыры.

Казік калыхнуў матацыкль, на слых, па плюханьню, праверыўшы, ці хопіць у бачку бэнзіны на дарогу ў раён і назад. Пераканаўшыся, што бэнзіны было яшчэ шмат, Казік завёў матор і, махнуўшы рукой Ірыньцы, хутка пакаціў па дарозе.

Ад Ламачоў да Тарушы, невялікага прырэчнага гарадка, што маляўніча раськінуўся ўздоўж высокага правага берагу Прыпяці, было кілямэтраў з дваццаць, але дарога скрозь была добрая, укатаная палутаркамі гравійка, і звычайна ўся яна займала ў Казіка ня больш паўгадзіны. Кінуўшы позірк на гадзіньнік, Казік прыкінуў, што калі яму пашанцуе й ён ня доўга затрымаецца зь перакладам, то магчыма, ён пасьпее вярнуцца дамоў і хутчэй, чым праз тры гадзіны. А яму гэта было-б вельмі важна. Ён-бы яшчэ пасьпеў, як зьбіраўся, зьезьдзіць на Багуцікую паляну, а магчыма, і да Косьціка яшчэ-б разок зазірнуў: трактарысты няспрактыкаваны, мала што ў яго там можа здарыцца.

Дарога бегла то полем, то заскоквала ў лясок, і ўсюды прыемна лашчыла вока шчодрая й яркая майская зеляніна. Паўз дарогу раз-по-раз мільгалі дрэвы, адзінокія кусты дзікай шыпшыны, усыпаная пяшчотнымі ружовымі кветкамі з моцным прыемным пахам. Але бадай найбольш прыгожым на ўсім шляху да Тарушы выглядала месца каля Ракітнага, невялікай вёскі на паўдарозе да раёну, дзе гравійка выбягала на лугавіну. Луг тут скрозь стракацеў жоўтым курасьлепам, блакітнымі незабудкамі, і ад хуткай язды здавалася, што імчышся не па зямлі, а па вялізным расквечаным дыване, разасланым тут нейкім вясёлым казачным волатам.

Мінуўшы луг, Казік выскачыў на нявысокі пясчаны ўзгорак. Адсюль дарога бегла роўна, як па лінейцы, і была відаць далёка-далёка. Уся яна была добра знаёмая Казіку, і ён сьмела павялічыў хуткасьць.

Неўзабаве зводдалек за цёмнай паласой лесу паказаўся высокі цагляны комін Тарушанскай цукеркавай хвабрыкі, а яшчэ праз кароткі час, калі Казік праскочыў малады хвойнік, за лазьняком выбліснула сіняя істужка Прыпяці й сталі відаць першыя дамы пасёлку...

У школу Казік трапіў у час, калі ў клясах ішлі заняткі, і ён доўга блудзіў па ціхіх пустых калідорах, пакуль нарэшце на другім паверсе не натрапіў на дзьверы з надпісам «Настаўніцкая». Пастукаўшы й пачуўшы дазвол, Казік адчыніў дзьверы. У прасторным сьветлым пакоі, у самым канцы доўгага стала, сядзела й нешта запісвала ў клясны журнал маладая дзяўчына. Казік не пасьпеў яшчэ ні прывітацца, ні разгледзець, як сьлед, дзяўчыну, як раптам яна ўстала й ветліва спытала яго:

— Гэта вы таварыш Бачура?.. Зь лістом?... Добры дзень! — Дзяўчына выйшла з-за стала і, зрабіўшы крок-другі насустрач Казіку, па-сяброўску падала яму руку. — Я і ёсьць тая, да каго вы прыехалі.

Крыху зьбянтэжаны нечаканасьцю сустрэчы, Казік асьцярожна паціснуў маленькую, але дужую руку Ніны Пятроўны.

— Ведаеце што, — сказала Ніна Пятроўна, зірнуўшы на свой наручны гадзіньнік, зараз будзе канец лекцыі, і тут зьбярэцца настаўнікі. Давайце пойдзем з вамі ў пянерскі пакой, ён цяпер свабодны, і там ніхто ня будзе нам перашкаджаць. Пайшлі?..

— Калі ласка, — згадзіўся Казімір, адчуваючы, як чырвань яшчэ большай зьбянтэжанасьці паволі заліла яго твар.

Пакуль Ніна Пятроўна гаварыла, ён міжвольна акінуў яе ўсю уважлівым позіркам, як звычайна малады хлапец глядзіць на дзяўчыну. Глянуў, і ўвесь нібы сумеўся, у грудзях трывожна стукнула сэрца. Тонкая, стройная, зь яснымі й нейкімі мілымі рысамі твару, з белымі, як лён, валасамі, якія пышнымі кудзеркамі спадалі на плечы, настаўніца як-бы раптам асьляпіла яго. Горш за ўсё было тое, што Ніна Пятроўна вось-вось павінна была заўважыць гэты яго недарэчны, празь меру ўражлівы позірк, — позірк, у якім так лёгка чыталася яго зьдзіўленьне й нейкая незразумелая нутраная зьбянтэжанасьць.

Але, на шчасьце, яна не заўважыла яго, а можа зрабіла выгляд, што не заўважыла, і Казік, перасіліўшы сябе, апусьціў вочы...

Пачуўшы яго згоду на сваю прапанову, Ніна Пятроўна лёгкай паходкай выйшла з настаўніцкай і пакрочыла некуды ў канец калідору. Казік ішоў ззаду, але цяпер ён унікаў ужо глядзець на Ніну Пятроўну, пагледаў уніз, сабе пад ногі. Адчуваючы няёмкасьць, Казік нахмурыўся, і яго тонкі малажавы твар стаў ненатуральна срогім, сур'ёзным.

У піянерскім пакоі было пуста й ціха. Ніна Пятроўна села за невялікі стол, што стаяў каля акна, жэстам запрасіла сесьці побач Казіка й працягнула руку:

— Ну, давайце ваш ліст. — Разгарнуўшы пададзены Казікам лісток, глянула ў яго й з палёгкай сказала: — О, у вашага сябры цудоўны почырк. А я, ведаеце, баялася... Ён, відаць, нейкі канторскі служачы.

— Не, ён тэхнік аўтазаводу, — коратка адказаў Казік, унікаючы глядзець у вочы Ніне Пятроўне. Ён як-бы баяўся, што ў яго позірку яна адразу-ж прачытае яго думкі, а думкі гэтыя ён лічыў зусім недарэчнымі й стараўся адкінуць іх.

— Зробім так, — прапанавала Ніна Пятроўна, кладучы перад Казікам чысты лісток паперы. — Вазьміце сваю аўтаручку, я вам буду памалу чытаць, а вы запісвайце... Так мы яго й перакладзем.

Казік паслухмяна выцягнуў зь верхняй кішэні сваёй блюзы ручку й нарыхтаваўся пісаць.

«Мой далёкі мілы сябра! — паволі прачытала Ніна Пятроўна й адкінула рукою кудзеркі валасоў, што апалі ёй на лоб. — Сяньня ў мяне цудоўны дзень, шчасьлівы дзень. Ты памятаеш Жану? Я табе расказваў пра яе. Дык вось сяньня яна падаравала мне сына...» — У вашага друга ўзапраўды шчасьлівы дзень, — з усьмешкай зірнула Ніна Пятроўна на Казіка. — Хто гэтая Жана? Вы ведаеце яе? Відаць, ён моцна кахае яе...

— Гэта адна дзяўчына, ён пазнаёміўся зь ёю ў дні фэстывалю, — усё яшчэ хмарачы лоб, адказаў Казік.

— Ну, цяпер яна, відаць, яго жонка, — заўважыла Ніна Пятроўна й спытала: — Я ня хутка дыктую, вы пасьпяваеце запісваць?

— Так, пасьпяваю, калі ласка...

«...Нібы звар'яцелы ад шчасьця, — прадаўжала Ніна Пятроўна, — я паўдня блудзіў па вуліцах і бульварах Парыжа, зялёных майскіх бульварах, напяваў сам сабе песенькі, усьміхаўся незнаёмым людзям. Успомніў фэстывальныя дні ў Маскве, дарагія мне ўдвая таму, што я там знайшоў сваю Жану, успомніў цябе. Прыйшоў дамоў, сеў за стол і адразу-ж наважыў падзяліцца з табой сваёй вялікай радасьцю... Дарагі

# лада Краўчанкі

нікога пастароньнята туды ня пусьціла. Таму з апытаных мною чулі аб падзеі ў бальшыні з газэты «Уэст Франс», а іншыя — з гутарак. Цікава адцеміць, што толькі адна асоба — жанчына прадаўшчыца фотакартачак і газэт адказвала на мае пытаньні неахвотна, а ў камэнтарах сваіх выразна зраджвала свае прасавецкія сымпатыі, выясьняючы: «што людзі гавораць, а газэты пішуць, што каму ўздумаецца, бо-ж ці мала выпадкаў у нас, калі людзі канчаюць самагубствам... Дык пры чым-жа тут Саветы?..» Усе-ж іншыя выказваліся із спачуваньнем да нешчасьлівае ахвяры. У камэнтаваньні, што «пакончыў самагубствам, каб не вяртацца дадому, дзе няма свабоды, няма жыцьця», выказваліся амаль усе. Былі толькі два камэнтары, што «Краўчанку выкінулі ягоныя сябры». Адна жанчына скамэнтавала выпадак досыць арыгінальна: «бедны хлопец хацеў астацца ў Францыі, але дзе-ж у Францыі ўсім месца, дык таму й забіўся. Колькі такіх, што хацелі-б тут астацца!»

### У камісара Паліцыі

Прадставіўшыся дзяжурнаму паліцмайстру, як беларускі журналісты, я папрасіў аўдыенцыі ў галоўнага камісара ў справе выпадку з Краўчанкам. Ня больш за нейкіх дзесяць хвілін сакратар паліцыі мяне завёў на другі паверх у кабінэт камісара, які сустрэў мяне цёпла й ветліва. Выясьніўшы дакладней мэту майго наведаньня, я зьвярнуўся да яго з просьбай даць нам па магчымасьці дакладнейшыя інфармацыі аб выпадку, падчыркваючы, якое вялікае значаньне мае для нашага вызвольнага змаганьня ведаць усю праўду. Выслухаўшы мяне ўважна й задаўшы некалькі пытаньняў, камісар папрасіў на хвіліну выбачэньня й падняў тэлефонную трубку. Ён гутарыў із судзьдзём сьледчым, у руках якога цяпер знаходзіцца справа Краўчанкі. «У маім бюро, — паведаміў камісар — знаходзіцца журналісты Беларус, суродзіч Краўчанкі. Што яму можна сказаць?.. Далей «А»... так... «А»... — і павесіў трубку.

— Бачыце, спадару, наўдачу ці змагу быць вам карысны. Сьледзтва яшчэ далёка незакончанае... Вы разумееце, што ў такім выпадку мы ня маем права... — тлумачыўся камісар.

— Дык можа, спадар камісар, зможаце адказаць мне хоць на некаторыя пытаньні, якія, я пэўны, ня могуць быць сакрэтам, але яны нас моцна хвалююць... Вось хоць-бы такія дэталі: пабочныя людзі шмат ведаюць аб выпадку, але аб ім розна расказваюць. Для нас вельмі важная хоць-бы такая дэталь: зь якога вакна й як выскачыў Краўчанка? — запытаўся я. На гэта камісар адказаў: — Гэта я сказаць магу. З чацьвертага паверху гатэлю, а калі ўлічыць тэрасу гаража, дык з трэйцяга, з вакна ваннага пакою. Вышыня ўпадку прыблізна 6 мэтраў зь некалькімі цэнтымэтрамі.

**Пытаньне:** На якое месца зваліўся?

**Адказ:** Амаль на сярэдзіну тэрасы гаража. Ён відавочна зрабіў розмах пры скоку.

**Пытаньне:** Ці хутка зьявілася на месца выпадку паліцыя?

**Адказ:** Не даўжэй, як за 10 мінут.

**Пытаньне:** У якім стане вы знайшлі ахвяру: ці моцна была зьнявечаная галава й ці доўга ён яшчэ мучыўся?

**Адказ:** Было моцна ўгнутае цемя й нутраныя паломы, твар ня быў зьнявечаны. Канчаўся каля паўгадзіны часу, ня болей.

**Пытаньне:** Ці штось гаварыў?

**Адказ:** Не, ані слова.

**Пытаньне:** Ці праўда, што паліцыя мела прыкрасьці з боку кіраўнікоў савецкай турыстычнай групы? Ці не працівіліся яны, каб дапусьціць францускага лекара й францускую хуткую помач?

**Адказ:** Гэта праўда, але мы сваё зрабілі. Працівілася асабліва адна жанчына, іхная лекарка, якая да прыбыцьця паліцыі зрабіла Краўчанку супакойваючы ўкол. Хацелі труп нябожчыка забраць самі, але пасьля агляду францускіх мясцовых лекараў труп Краўчанкі быў адпраўлены намі ў Парыж — у шпіталь «Пэр ля Тэз», скуль толькі пазьней, пасьля правядзеньня адпаведнага дасьледваньня, быў ён перададзены савецкім прадстаўніком.

**Пытаньне:** Ці могуць быць акіясьці сумляваньні што да самагубства Краўчанкі?

**Адказ:** Абсалютна не. Пярэчыць гэтаму папершае — вынік францускай мэдычнай экспэртызы, а падругое — і гэта найгалаўнейшае — ліст-тэстамант Краўчанкі.

**Пытаньне:** Ходзяць чуткі, і некаторай прэсай былі выказаныя прыпушчэньні, што ліст гэны мог быць падложаны кімсь зь ягоных «сяброў» у вапраўданьне зробленага над Краўчанкам насільля?

**Адказ:** Некаторая прэса, як гэта часта здараецца, шмат фантазьявала й цытавала няісную ючыя сказы зь ліста Краўчанкі.

**Пытаньне:** Мы чулі, што гэты ліст-тэстамант папаў быў у рукі кіраўніка турыстычнай групы й што вы мелі шмат клопатаў, каб яго дастаць?

**Адказ:** Гэта праўда, але ліст гэты быў папаў у мае першыя рукі. Кіраўнік групы не хацеў яго мне вярнуць, калі яму далі яго, каб пры нас-жа зрабіў пераклад на францускую мову. Што гэты ліст арыгінальны, напісаны ўласнаручна Краўчанкам, няма найменшага сумлеву: папершае, быў ён знойдзены намі, паліцыяй, пры абшукваньні адзежы Краўчанкі — ён быў запхнуты праз кішаню пад рубец палы марынаркі; падругое, спэцыялістымі ўстаноўленая аўтэнтычнасьць характару пісьма Краўчанкі.

**Пытаньне:** Ці не магчыма было-б мне пабачыць гэны ліст?

**Адказ:** Арыгіналу пабачыць нельга: ён цяпер знаходзіцца ў актах судзьдзі сьледчага. Але ягоны пераклад на францускую мову магу паказаць. Поўны ягоны тэкст быў надрукаваны за 3-4 верасьня ў правінцыянальным выданьні газэты «Франс Суар». У выданьні-ж парыскім ён быў надрукаваны за 2 верасьня.

(У «Франс Суар» пераклад ліста Краўчанкі я чытаў, але дзеля праверкі ўзяў у камісара афіцыяльны тэкст, прачытаў яго й сьцьвердзіў, што ўсё так, як і ў газэце (М. В.).

**Пытаньне:** Дазвольце, спадар камісар, запытацца, хто быў перакладнікам гэтага ліста?

**Адказ:** Перакладнікаў было чатырох. Першы пераклад нам зрабіў усё-ж кіраўнік турыстычнай групы, другі — расейскі эмігрант, прысяжны перакладнік з расейскае мовы пры тутэйшым судзе. Гэты апошні адрозьніваўся ад перакладу першага. Тады мы зьвярнуліся ў Парыж, скуль атрымалі таксама два пераклады прысяжных перакладчыкаў. Адзін зь іх быў зроблены земляком Краўчанкі (радзіўся ў Менску), і гэты пераклад быў поўнасьцяй згодны зь перакладам кіраўніка савецкай турыстычнай групы. Мы ўважаем таму, што паколькі гэтыя пераклады двух асоб незнаёмых узаемна й аддзеленых адлегласьцяй, супадаюць зьместам, дык яны й адпавядаюць арыгіналу. Чытаны вамі вось гэты пераклад у «Франс Суар» мы й уважаем за камплетны й інтэгральны.

**Пытаньне:** А некаторыя газэты падавалі, што тэстамант Краўчанкі быў напісаны на двух лістох дробна-сьціснутым шрыфтам. А надрукаваны ў газэце тэкст ліста даволі кароткі?

**Адказ:** Праўда, але ён напісаны на лістках вось такога прыблізна бляхноціка, — і камісар паказаў свой бляхноцік фармату прыблізна 10 x 6 цэнтымэтраў.

**Пытаньне:** А на якой мове напісаны тэстамант?

**Адказ:** На расейскай, толькі «раманскім» шрыфтам.

**Пытаньне:** Як гэта?..

**Адказ:** Ну вось так, як Вашая візытная картка, ці вось як француская газэта.

**Пытаньне:** Мы гэта называем лацініцай.

**Адказ:** Калі хочаце, хай будзе лацініцай.

**Пытаньне:** Значыцца, — пытаюся, хочучы яшчэ больш упэўніцца — тэстамант напісаны літарамі лацінскімі, якіх ужываюць і Французы?

**Адказ:** Ну так, і ня толькі ліст, а й зацемкі, робленыя Краўчанкам у карнэце таксама раманскім, ці, калі хочаце, лацінскім шрыфтам.

**Пытаньне:** А дзе гэны карнэцік? Што там за зацемкі?

**Адказ:** Таксама ў судзьдзі сьледчага.

— Спадар Камісар, прашу Вас зьвярнуць на гэта асаблівую ўвагу сьледчых органаў. Гэта нязвычайна цікава й важна. Я цяпер амаль пераканаены, што тэстамант напісаны быў у беларускай мове, бо лацініца ў беларускай мове ўжываецца ўжо ад некалькіх сотняў гадоў і дасяньня паралельна зь кірыліцай, падобна як у Немцаў да нядаўнага часу ўжывалася лацініца паралельна з готыкай. А для расейскай мовы лацініца была-б такой самай навіной, што, прыкладам, шрыфт гэбрайскі ці арабскі. Адсюль напрашваюцца наступныя вывады:

1. Калі тэстамант напісаны пабеларуску, дык можна сумлявацца, што пераклад, зроблены Расейцамі, поўнасьцяй дакладны, бо беларуская мова розьніцца ад расейскай гэтулькі, колькі француская ад гішпанскай.

2. А яшчэ важней тое, што, пачынаючы з 1924 г., ужываньне ў беларускай мове лацініцы ў Савецкай Беларусі сурова забароненае. Таму напісаны лацініцай тэстамант Краўчанкі набірае **зусім іншага характару.** Ужо адная гэтая форма, як дэманстрацыйна варожая бальшавіком, можа быць дастатковым довадам, што тэстамант быў адрысаваны не для Саветаў. Калі-ж, аднак, тэстамант напісаны парасейску, з гэтага можна й неабходна зрабіць трохі іншыя, але ня менш вымоўныя вывады. Гэтую справу, Спадар Камісар, абавязкава трэба выясьніць як найхутчэй. Што да перакладу зь беларускай мовы, калі ў гэтым вывіцца патрэба, дык нашая арганізацыя прапануе Вам свае ўслугі бясплатна.

**Адказ:** Раджу Вам у гэтай справе зьвярнуцца да судзьдзі сьледчага.

☆

Што-ж датычыцца тых двух містычных быццам зьбеглых зь цягніка беларускіх турыстых з тае самае групы, што й Краўчанка, аб чым успаміналася ў заходняй і эміграцкай прэсе, у тым ліку і ў «Бацькаўшчыне», дык на падставе нашага даўжэйшага дасьледваньня ў Парыжы, а цяпер тут у Кан і пасьля інтэрвью ў камісара паліцыі, можна зрабіць наступныя вывады:

1. Усё-ж такі дзьве асобы з турыстычнай групы дзесьці зьніклі, бо канчальна ўстаноўлена, што турыстычная група прыбыла ў Францыю з БССР у ліку 26 **асоб, а не 24.**

2. Гэтая група ў ліку 26 асоб падарожнічала па Францыі на працягу амаль двух тыдняў, гэтых 26 асоб начавала ў гатэлі «Оцэанік» у Парыжы яшчэ напярэдадні выезду ў Нармандыю, а ў Кан прыбыло ўжо й замэльдавалася ў «Готэль Модэрн», не 26, але 24 асобы.

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**



**Зьлева: Фасад «Готэль Модэрн». Справа: Гатэль з двара. Зь левага боку гараж. Акно, зь якога выкінуўся Краўчанка, абазначанае крыжыкам.**

---

Казік, як ты жывеш, якія ў цябе навіны? Я часта ўспамінаю цябе, тваю цудоўную «Рэчаньку». Пахвалюся табе, што яе цяпер сьпяваюць ужо многія мае сябры... Хочацца пісаць яшчэ й яшчэ, але няма часу. Зараз пабягу, пераведаю Жану, занясу ёй кветкі й паспрабую дабіцца дазволу хоць адным вокам убачыць сына. Пішы мне, дарагі дружа, а яшчэ прашу перадай мой шчыры прывет усім-усім сябром, сваім палём і трактарам, свайму цудоўнаму Палесьсю й сіняму вясноваму небу, якое ўва ўсіх людзей на сьвеце адно. Абнімаю цябе. Твой Шарль»... — Вось і ўсё, — закончыла Ніна Пятроўна. Яна ўтаропілася позіркам некуды ў далячынь, за акно, і задумалася. — Цудоўны ліст... Ён мусіць, моцна палюбіў вас, гэты Шарль? — Ніна Пятроўна доўгім, вывучаючым позіркам паглядзела на Казіка.

— Ня ведаю, — ціха адказаў Казік. — Але гэты ягоны ліст мяне ўсхваляваў... — Памаўчаўшы, Казік паглядзеў проста ў вочы настаўніцы. — У мяне да вас просьба, Ніна Пятроўна...

— Завіце мяне проста Ніна, — раптам перабіла яна. — Добра?

Твар Казіка зноў пыхнуў чырваньню.

— Добра, апусьціўшы галаву, згадзіўся ён. — Цяпер у Шарля, напэўна, столькі клопату, і я не хацеў-бы абцяжарваць яго неабходнасьцю шукаць перакладніка. Ці ня згодзіцеся вы зрабіць пераклад майго адказу на францускую мову? Я мог-бы прыехаць заўтра пасьля работы.

— Чаму-ж не? Калі ласка! — адразу згадзілася Ніна Пятроўна і, чыркануўшы нешта на лістку паперы, падала яе Казіку. — Вось мой хатні адрыс.

Ня мінула яшчэ й чатырох гадзін дня, калі Казік вярнуўся з Тарушы ў Ламачы. Адразу-ж, навет не заяжджаючы дамоў, ён махануў на Багуціцкую паляну, пераведаў трактарыстых, што ўздымалі пад грэчку аўсянішча. Адтуль перакінуўся на палетак, дзе працаваў Кастусь, — у таго за ўвесь дзень ня здарылася ніякай замінкі, і хлопец быў на сёмым небе ад радасьці, што першы дзень ягонай самастойнай работы прайшоў так удала. Потым Казік зьезьдзіў дамоў, і сам — гаспадыні, цёткі Марыны дома ня было — наскора паабедаў і адразу-ж зноў падаўся ў поле. Яму трэба было знайсьці старшыню калгасу й яшчэ раз напамянуць, каб заўтра не забылі паслаць каго-небудзь у РТС за «зьвёздачкамі» да трактарных гусеніц. — Ляцяць, ліха на іх, не набярэшся...

Але што ён ні рабіў, вярнуўшыся з Тарушы, чым-бы ні займаўся, ён адчуваў, што ў ягоным жыцьці нешта здарылася, вялікае, значнае, непаўторнае... «Глупства гэта, глупства, ня можа быць», — суцяшаў сам сябе Казік, як-бы баючыся таго новага, што завалодала ўсёй яго істотай. Але тое не праходзіла, і ўласьцівы яму душэўны спакой не вяртаўся. Казік езьдзіў, хадзіў, размаўляў зь людзьмі, даваў загады й парады, але ўсё гэта рабіў, нібы ў сьне. З галавы ня выходзіў вобраз тарушанскай настаўніцы, у сэрцы стукала адно й тое-ж...

Увечары, вярнуўшыся з поля, Казік сеў за стол, запаліў настольную лямпу й пачаў пісаць адказ Шарлю Касьцелену.

«Дзень добры, дарагі дружа Шарль...» — пачаў ён.

Але гэта было й усё, што ён змог напісаць. Колькі ён не сядзеў над сталом, як ні намагаўся, далей ня мог выціснуць зь сябе ні слова. Зь нязвычайнай выразнасьцю, нібы асьветлены яркім майскім сонцам, стаяў перад ягонымі вачыма вобраз Ніны Пятроўны, нібы ў яве, ён бачыў яе твар, ледзь прыпухлыя вусны, бачыў, як яна павяртаецца, ідзе, як падае яму сваю маленькую руку...

Амаль апоўначы, так і ня здолеўшы, больш напісаць і радка, Казік раптам устаў, накінуў на плечы пінжак, надзеў шапку і, стараючыся лішня ня грукаць, каб не пабудзіць гаспадароў, выйшаў за дзьверы. Яркі прамень сьвятла ад фары матацыклю асьвятліў двор, і, выкаціўшы машыну за вароты, Казік зь месца рашуча ірвануўся ў начную цемень.

Праз паўгадзіны ён ужо быў у Тарушы. Адшукаўшы вуліцу й дом, дзе жыла Ніна Пятроўна, ён па сьцежачцы зайшоў у двор і асьцярожна, але настойліва пастукаў у дзьверы. У доме было ўжо цёмна, відаць, усе ўжо спалі.

— Хто там? — праз хвіліну пачуў Казік у сенцах сонны голас нейкай старой жанчыны.

— Я да Ніны Пятроўны. Паклічце яе, калі ласка, — папрасіў Казік. Голас ягоны дрыжэў ад хваляваньня. — Скажыце, што гэта я, Казік...

— Пачакайце, я зараз... — Казік пачуў, як жанчына зь сянец, мякка шлёпаючы пантоплямі, патопала ў хату.

Мінула хвіліна, другая... Сэрца ў грудзёх Казіка стукала часта й моцна. Час, здавалася яму, цягнуўся надзвычай марудна, магчыма навет стаяў на месцы. Але вось у вакне побач з ганкам раптам загарэлася сьвятло. У сенцах зноў зарыпелі дзьверы, грукнула адкінутая завала знадворных дзьвярэй, і вось ён убачыў на парозе Ніну Пятроўну — у доўгім халаце, у начных туфлях.

— Казік?! — зьдзівілася Ніна Пятроўна. — Мы-ж дамовіліся, што вы прыедзеце заўтра...

— Я прыехаў не за гэтым, — глуха прамовіў Казік.

— Што-небудзь здарылася? — запытала Ніна Пятроўна й адступіла ўбок. — Заходзьце ў хату.

— Не, ня трэба, я ўсё скажу тут, — не кранаючыся зь месца, усхвалявана й пасьпешліва, нібы ў трызьненьні, прамовіў Казік. — Магчыма, я буду казаць глупства, але я скажу... Я сяньня ўбачыў вас, і з тае хвіліны не знаходжу сабе месца. Можа я проста дурань. Няхай я буду дурань, але я павінен быў убачыць вас — хоць ноч, хоць град зь неба.

— Што з вамі, Казік, супакойцеся, — выйшаўшы на ганак, ціха сказала Ніна Пятроўна. Яна, відаць, адчула ўсхваляванасьць і шчыры парыў юнака. — Навошта вы гэта... Так адразу...

— Адразу? — падаўся наперад Казік. — Не, гэта не адразу. Я доўга, даўно ўжо шукаў вас, такую, як вы... Скажыце мне што-небудзь, хоць адно слова, Ніна...

Ніна Пятроўна задумалася, прыціхла. Казік застыў у чаканьні, як туга нацягнутая струна.

— А ведаеце, Казік, — павольна, як-бы абдумваючы кажнае слова, сказала яна. — Мне падабаюцца такія... рашучыя. Мы, напэўна, будзем з вамі дружыць, а?..

Казік уздрыгнуў, уськінуў галаву, вочы яго бліснулі.

— Ніна! — выгукнуў ён і, ня стрымаўшы сябе, хапіў дзяўчыну за руку. Але тут-жа ён адразу адпусьціў яе, і, як дзівак, кінуўся бегчы па сьцежачцы на вуліцу. — Бывайце, Ніна Пятроўна! — гукнуў ён, ужо дабегшы да брамкі. — Заўтра я прывязу вам ліст да Шарля...

І Казік рынуўся ў ноч, у цемень, як нажом, расьсякаючы яе промнем яркага сьвятла. А ў грудзях яго білася, зьвінела ўлюбленая песьня:

Ой, рэчанька, рэчанька!..

# У БССР бязь зьменаў

Даклад першага сакратара ЦК КП Беларусі Мазурава на сёлетнім, XXV рэспубліканскім партыйным зьезьдзе коратка можна акрэсьліць так: дыялектыка супярэчнасьцяў. Кожны разьдзел свае прамовы ён пачынае гутаркай пра дасягненьні, а пасьля падае факты, якія зусім запярэчваюць гэтыя дасягненьні. Ня толькі запярэчваюць, але і даказваюць, што створаны партыяй шум навокал новай праграмы КПСС і гэтак званага будаўніцтва камунізму — гэта дымавая заслона, традыцыйнае бальшавіцкае замыльваньне вачэй.

Возьмем для прыкладу беларускую прамысловасьць. Мазураў гаворыць, што «плян вытворчасьці 1961 году перавыкананы, плян васьмі месяцаў гэтага году выкананы на 103 працэнты». Пасьля гэтага ён падае працэнтныя параўнаньні зь мінулымі гадамі, унікаючы, як звычайна, абсалютных лічбаў.

Далейшыя выказваньні Мазурава — гэта бліскучае запярэчаньне пададзеных ім дасягненьняў. Паводля ягоных словаў, шматлікія прамысловыя прадпрыемствы Беларусі ня выканалі прадукцыйнага пляну. Звычайна, гэта яшчэ ня сьветчыць аб тым, што ўся беларуская прамысловасьць працуе дрэнна. Аднак Мазураў падае лікі і факты, якія даказваюць, што калі ня ўся, дык большая частка беларускай прамысловасьці адстае ад патрэбаў жыцьця і колькасна, і якасна, і тэхнікай вытворчасьці.

Гэта тычыцца ў першую чаргу лёгкай прамысловасьці. Праўда, Мазураў гаворыць, што «вытворчасьць тавараў народнага спажываньня з году ў год павялічаецца», а ў іншым месцы свае прамовы ён заяўляе, што мясцовая прамысловасьць Беларусі працуе нездавальняюча. А працуе яна нездавальняюча таму, што, паводля таго-ж Мазурава, Дзяржплян прысьвячае ёй мала ўвагі. Дзяржплян БССР клапоціцца аб тым, каб так-сяк працавалі прадпрыемствы агульнасаюзнага значэньня; рэспубліканскія-ж прадпрыемствы выразна занядбоўваюцца. Яны, як кажа Мазураў, не атрымліваюць дастаткова матэрыялу, тэхнічнага абсталяваньня, кадраў.

Найбольшы-ж недахоп беларускай прамысловасьці, асабліва лёгкай прамысловасьці — гэта дрэнная якасьць прадукцыі. Вось што пра гэта гаварыў Мазураў: «Дзяржінспэкцыяй ў першым паўгодзьдзі 1961 году было забракавана... на прадпрыемствах саўнаргасу 29 працэнтаў... швэйных вырабаў, 32 працэнты мэблі, 10,8 працэнтаў кансэрваў». На некаторых прадпрыемствах забракавана ад 90 да 100 працэнтаў прадукцыі. Страты ад браку і непрадукцыйных выдаткаў за 1961 год склалі звыш 9 мільёнаў новых рублёў, а за шэсьць месяцаў гэтага году — больш 4 мільёнаў рублёў. У суму гэтых стратаў уваходзіць брак ня ўсіх прадпрыемстваў рэспублікі, а пэўнай часткі гэтых прадпрыемстваў. Якой часткі — Мазураў не гаворыць. Можна сьмела прыпушчаць, што крытыка, зробленая Мазуравам не раскрывае ўсёй праўды. А праўда значна горшая, і ня толькі ў дачыненьні да якасьці прадукаваных на Беларусі тавараў.

Аднак ужо і вышэй зацытаваных словаў Мазурава што тычацца якасьці прамысловай вытворчасьці Беларусі выстарчыць на тое, каб разьвеяць міт дасягненьняў, аб якіх ён гаварыў на пачатку свайго дакладу. Найбольшы аптыміст мусіць прызнаць, што прынамся 20% прамысловай прадукцыі БССР — гэта выразны брак. Калі адлічыць гэты брак ад пададзеных Мазуравам лічбаў пра дасягненьні прамысловасьці Беларусі, дык з гэтых дасягненьняў не застанецца амаль нічога, а ў галіне лёгкай прамысловасьці хутчэй можна гаварыць пра адставаньне.

Вобраз заняпаду й адставаньня беларускай прамысловасьці дапаўняюць яшчэ дадзеныя Мазурава пра застарэлую тэхніку шматлікіх прадпрыемстваў, штурмаўшчыну, няпрадукцыйнасьць працы, а таксама ўзрастаючую бюракратыю ў кіраўніцтве прадпрыемствамі.

Як ведама, савецкая прапаганда ўвесь час гаворыць аб тым, што якраз адным з найбольшых дасягненьняў нацыянальнай палітыкі бальшавікоў зьяўляецца падрыхтоўка нацыянальных тэхнічных кадраў. А з словаў Мазурава відаць, што ў Беларусі і далей адчуваецца вялікая нястача гэтых кадраў. Гэтая супярэчнасьць тлумачыцца тым, што тэхнічныя кадры Беларусі, ня гледзячы на вялікую шкоду, якую гэта прыносіць беларускай прамысловасьці, далей рэгулярна высылаюцца для калянізацыі пустынных заўральскіх прастораў.

Падсумоўваючы пададзеныя самым Мазуравам нястачы беларускай прамысловасьці, можна зрабіць толькі адзін лягічны высноў: беларуская прамысловасьць, як і прамысловасьць усяго Савецкага Саюзу, перажывае сталы крызіс і ўсе высілкі партыі перамагчы яго ня маюць посьпеху. Ня маюць таму, што корань зла ляжыць не ў часовых, прыпадковых цяжкасьцях, а ў самой аснове савецкай палітычна-эканамічнай сыстэмы, падмінаванай хваробай таталітарызму.

Як-жа выглядаюць справы ў сельскай гаспадарцы БССР?

У сваім дакладзе на прыгаданым зьезьдзе Мазураў гаварыў: «партыйныя арганізацыі рэспублікі... галоўную ўвагу накіроўвалі на павялічэньне вытворчасьці збожжа, павышэньне ўраджайнасьці ўсіх сельскагаспадарчых культураў, на павялічэньне пагалоўя жывёлы і вытворчасьці мяса, малака, яек у калгасах і саўгасах.»

Якія-ж вынікі далі гэтыя намаганьні партыйных арганізацыяў? Падобна, як і пры абмяркоўваньні пытаньняў прамысловасьці Беларусі, Мазураў спачатку адзначае вялікія дасягненьні сельскай гаспадаркі. У доказ гэтага ён падае павялічэньне пасяўной плошчы розных сельскагаспадарчых культураў, павышэньне ураджайнасьці ў сярэднім на 1,5 цэнтнара з гэктара, павялічэньне валавога збору бульбы і павышэньне надояў малака. Гэта і былі-б прыблізна ўсе дасягненьні, якімі змог пахваліцца Мазураў. Аднак усе гэтыя дасягненьні тонуць у моры розных недахопаў, якіх Мазураў ня мог прамаўчаць у далейшай частцы свайго дакладу і якія сьветчаць аб тым, што сельская гаспадарка Беларусі і далей перажывае глыбокі крызіс.

Як ведама, ЦК КПСС няраз крытыкаваў Беларусь за нездавальняючы стан сельскагаспадарчай вытворчасьці. Аднак гэтая крытыка, як адзначае Мазураў, не дала жаданых вынікаў. «Калгасы й саўгасы як належыць не займаюцца арганізацыяй нагулу і адкорму буйнай рагатай жывёлы», — гаварыў ён. Яны перш за ўсё ня дбаюць пра нарыхтоўку кармоў. Дзеля гэтага і рост пагалоўя жывёлы, прадбачаны плянам, ня зьдзейсьніваецца.

Яшчэ горш выглядае справа ў галіне павышэньня пагалоўя сьвіньней. Таму, гаворыць Мазураў, «вытворчасьць сьвініны пастаўлена нездавальняюча». За восем месяцаў гэтага году калгасы і саўгасы атрымалі сьвініны на некалькі тысяч тон менш, чымся ў мінулым годзе. У сувязі з гэтым рэспубліка атрымала менш мяса, што звычайна адбіваецца на забясьпячэньні мяснымі прадуктамі насельніцтва. Але і бяз Мазурава ведама, што ў Беларусі, бяручы агулам, на парозе гэтак званага камунізму, каб атрымаць мяса, усё яшчэ даводзіцца стаяць у чарзе.

Ня гледзячы на тое, што Мазураў гаварыў аб агульным павышэньні прадукцыі малака, у іншым месцы ён мусіў сьцьвердзіць, што адбываецца далейшае зьніжэньне надояў малака ад каровы. У шмат-якіх вобласьцях гэтае зьніжэньне складае ад 100 да 300 кіляграмаў у год. Тут трэба адзначыць, што надоі малака ў Беларусі і так на шмат ніжэйшыя, чымся ў заходніх краінах. Тады, калі напрыклад у Заходняй Нямеччыне надой малака ад каровы складае каля трох тысяч кіляграмаў, у Беларусі сярэдні надой на карову ў 1960 годзе складаў толькі 1825 кіляграмаў, а за апошнія месяцы зьніжыўся да 1550 кіляграмаў. З гэтага вынікае, што дадзеныя Мазурава пра павышэньне прадукцыі малака не адпавядаюць сапраўднасьці.

З дакладу Мазурава выразна вынікае таксама тое, што ў сельскай гаспадарцы Беларусі пануе хаос, бязладзьдзе і бюракратыя. Так, напрыклад, тэхніка выкарыстоўваецца надзвычай дрэнна. Трактары з прычыны тэхнічных і арганізацыйных непаладкаў прастойваюць амаль палавіну працоўнага часу. Тое самае можна сказаць і пра іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Пра адсталасьць мэханізацыйнай і агратэхнічнай тэхнікі ў беларускай калгаснай вёсцы сьветчыць і пададзены Мазуравам факт, што **ў сельскай гаспадарцы Беларусі працуюць ўсяго 54 інжынеры і 438 тэхнікаў.** І гэта ў той час, калі ў Беларусі, у Горы-Горках, існуе найстарэйшая ў СССР сельскагаспадарчая акадэмія. Куды-ж Мазураў паразганяў выпускнікоў беларускіх сельскагаспадарчых інстытутаў?

**(Заканчэнье на 7-ай бач.)**

# Па дарозе Ус. Краўчанкі

**(Заканчэньне з 5-ай бач.)**

3. На запытаньне французскіх уладаў, дзе дзеліся тыя два сябры турыстычнае групы, савецкая амбасада ў Парыжы адказала, што яны сьпешна ў службовых справах былі выкліканыя ў Маскву.

Адсюль узьнікаюць тры магчымыя гіпатэзы:

1. Два «зьбеглыя» былі агентамі МВД і што, выканаўшы сваё заданьне, былі адкліканыя сваімі ўладамі. Гэтая, адылі, гіпатэза амаль што ня вытрымлівае крытыкі. Калі-б нат і сталася запраўды так, дзеля чаго было ім, прыбылым легальна ў Францыю, выяжджаць **нелегальна**, кампрамітуючы гэтым самым аўтарытэт савецкае ўлады?

2. Два турыстыя, западозраныя або й «раскрытыя» ў варожасьці да Савецкага Саюзу, былі перад выездам у Нармандыю закліканыя ў савецкую амбасаду, адкуль ужо вольнымі ня выйшлі. У савецкай амбасадзе ў Парыжы ёсьць савецкі ворган бясьпечнасьці навет з крэматорыяй у падвале.

3. Два «зьбеглыя» сябры турыстычнай групы зьвярнуліся не да французскіх уладаў, але да якойсьці іншай амбасады, якая, па просьбе зьбеглых, не апублікоўвае іхных імён. Падобны выпадак здарыўся прыблізна два гады таму назад зь летувіскім пісьменьнікам у Парыжы.

У кажным выпадку французскія ўлады напэўна ведаюць прозьвішчы гэных 2-х асобаў, але, пакуль ня скончанае сьледзтва, не знаходзяць магчымым падаць іх да агульнага ведама. Дзеля гэтага нашыя намаганьні дастаць сьпіскі турыстычнай групы з БССР у гаспадароў гатэляў, у якіх група затрымлівалася, не ўкаранаваліся пасьпехам.

Вось пакуль што ўсё, што аб трагічным выпадку зь пісьменьнікам Краўчанкам удалося даведацца. У далейшым мы будзем уважна сачыць за разьвіцьцём гэтае справы й, калі выявіцца нешта новае, адразу падамо да ведама.

**М. Відук**

(Ад карэспандэнта «Бацькаўшчыны» ў Францыі)

# Тэндэнцыйнае правасудзьдзе

**(Заканчэньне з 3-яй бач.)**

далучыліся да камуністычных партызанаў, дзе яны «дзейнічалі» яшчэ амаль цэлы год, зьмяніўшы аднаго гаспадара на другога. Гэта, аднак, ня выратавала іх ад сьмерці. Савецкі суд ня ўлічыў ніякіх зьмякчальных абставінаў і, у першую чаргу, вялікай адказнасьці ўва ўсёй гэтай трагедыі савецкай палітыкі.

У сувязі з гэтым ёсьць падставы задумацца над запраўднымі, глыбейшымі матывамі інсцэнізацыі прыгаданага працэсу.

Напачатку трэба зьвярнуць увагу на тое, што сьмяротныя прысуды былі вынесеныя ня гледзячы на ўсе амнэстыі, абвешчаныя савецкім урадам пасьля вайны ў дачыненьні да асобаў, што супрацоўнічалі зь нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Гэта лішні раз сьветчыць аб тым, чаго вартыя розныя савецкія дэкларацыі і ўся гэтак званая «сацыялістычная законнасьць». Кур'ёзнасьць гэтых прысудаў выяўляецца і ў тым, што караюць сьмерцяй уласных грамадзян і ў той-жа самы час падтрымліваюць і братаюцца з былымі адказнымі дзеячамі нацыстаўскага рэжыму ў гэтак званай ГДР. На Захадзе агульнаведама, што там на адказных партыйных і ўрадавых становішчах да сёньня сядзяць буйныя нацыстоўскія злачынцы, якія цяпер быццам сталіся ідэальнымі камуністымі.

Нязвычайным зьяўляецца таксама й той розгалас, які надае савецкая прапаганда апошнім сьмяротным прысудам савецкіх судоў. Усім добра ведама, што пасьля Другой сусьветнай вайны сотні тысяч людзей пад прэтэкстам супрацоўніцтва зь гітлераўскімі акупантамі без найменшага шуму былі дэпартаваныя ў канцэнтрацыйныя лягеры савецкіх арктычных раёнаў і вынішчаныя фізычна.

Цяперашні розгалас можна вытлумачыць хіба толькі тым, што, завёўшы сьвет на мяжу вайны штучна створаным бэрлінскім крызісам, маскоўскія валадары намагаюцца стварыць атмасфэру тэрору ня толькі ў міжнароднай палітыцы выбухамі сваіх ядзерных бомбаў, але й сярод уласнага насельніцтва — сваімі сьмяротнымі прысудамі.

Так, караць злачынцаў трэба. Але трэба караць справядліва, і **ўсіх** злачынцаў! Няма ніякага сумлеву, што раней ці пазьней злачынствы камуністых разгледзіць аб'ектыўны суд.

**М. К.**

# Зорка Вэнэра

**(Канцавая частка апавяданьня)**

І ўсё-ж зусім нечакана для Наташы, вядомасьць прыйшла да яе. Хоць прыйшла яна зусім не адтуль, адкуль можна было чакаць. Неяк яшчэ ў першыя дні, калі Наташа толькі прыехала на будаўніцтва, Тацяна аднойчы ўвечары прывяла сяброўку ў Дом культуры й падгаварыла яе запісацца ў самадзейны харавы калектыў. Наташа не адмаўлялася, яна любіла сьпяваць і ў школе ўсе гады прымала ўдзел у хоры.

З таго вечара раз у два дні пасьля работы сяброўкі хадзілі ў клюб будаўнікоў на сьпеўку. Гэта быў самадзейны калектыў, і на рэпэтыцыю зьбіралася каля паўсотні юнакоў і дзяўчат. Кіраўніца хору Аля Міхайлаўна — нядаўняя выпускніца кансэрваторыі — мела свой мэтад навучаньня: яна ня вылучала з калектыву якой-небудзь лепшай сьпявачкі, каб толькі ёй адной заўсёды даручаць сольныя выступленьні, а па чарзе захвочвала ўсіх дзяўчат з добрым голасам выступаць запеваламі ў хоры. Яна хацела, каб як мага больш здольных маладых сьпявакоў і сьпявачак прывучыліся да сольных выступленьняў.

На другой ці трэйцяй рэпэтыцыі, калі Наташа больш-менш асвойталася ў хоры, Аля Міхайлаўна даручыла й ёй запяваць. Наташа прасьпявала, і ўсім вельмі спадабаўся яе чысты, звонкі голас, а Аля Міхайлаўна, акрамя розных добрых слоў з поваду яе вакальных здольнасьцяў, выказала яшчэ адабрэньне і яе манеры трымаць сябе ў час сьпеваў — сьціпла, ня выстаўляючыся і разам з тым сьмела, з пачуцьцём уласнай годнасьці.

Але Наташа, даслухаўшы Алю Міхайлаўну, раптам папрасіла:

— Прабачце, Аля Міхайлаўна, але я... не адчуваю гэтай песьні і, шчыра кажучы, ня вельмі яе люблю... Вось калі-б Вы даручылі мне прасьпяваць «Зорку Вэнэру»...

— Вось яно што! — зьдзівілася Аля Міхайлаўна і на хвілінку задумалася. — Што-ж, з часам мы будзем развучваць і «Зорку Вэнэру»...

І вось мінула колькі часу, і на аднэй з рэпэтыцыяў Наташа выступіла запявалай сваёй улюбленай песьні. Сьпявала яна сапраўды так хораша, пранікнёна, што ўсе ўдзельнікі хору, ды й сама Аля Міхайлаўна былі ажно расчулены. Відаць было, што Наташа моцна любіць гэтую песьню і нібы ўкладае ў яе сваю чыстую дзявочую душу. Ажно кранала за сэрца, калі яна тонкім, чыстым голасам вяла:

Зорка Вэнэра ўзышла над зямлёю,
Сьветлыя згадкі з сабой прынясла...

Тут-жа ўсім калектывам было пастаноўлена ўключыць «Зорку Вэнэру» ў праграму самадзейнага канцэрту, які намячалася наладзіць у бліжэйшую нядзелю для ўдзельнікаў вытворчай канфэрэнцыі перадавікоў будоўлі.

Вытворчая канфэрэнцыя — падзея на будоўлі. У ёй прымаюць удзел работнікі з усіх вытворчых участкаў, знатныя перадавікі, інжынеры, тэхнікі, кіраўнікі будаўнічага ўпраўленьня. На такіх канфэрэнцыях абмяркоўваюцца ўсе найбольш надзённыя пытаньні будаўніцтва. Як і заўсёды, на гэты раз вялізная заля Дому культуры была запоўненая народам. Людзям не хапала месцаў, і яны тоўпіліся ўздоўж сьцен, стаялі ў праходах.

Канфэрэнцыя скончылася позна, але, даведаўшыся, што ў заключэньне будзе дадзены канцэрт мастацкай самадзейнасьці, ніводзін чалавек не пакінуў залі.

Выступленьне хору ўдзельнікі канфэрэнцыі сустрэлі апладысмэнтамі. Шчодра ўзнагароджвалі воплескамі глядачы і кажную новую песьню і новага сьпевака. Але на долю Наташы на гэты раз выпаў асаблівы, нязвычайны посьпех. Калі Наташа скончыла сьпяваць, заля, нібы зачараваная, спачатку замёрла ў маўчаньні. Замёрла й сэрца ў Наташы ад хваляваньня — ці спадабалася гэтым цудоўным работніцкім людзям, якіх яна пасьпела ўжо й зразумець і моцна палюбіць, яе песьня, ці здолела яна перадаць ім усё зачараваньне пявучых слоў, мілагучнай мэлёдыі?...

І раптам заля грымнула воплескамі. Бурай воплескаў! Адусюль чуліся выгукі — «біс, біс!» Людзі ўставалі з сваіх месцаў і прасілі паўтарыць песьню. Аля Міхайлаўна із шчасьлівай усьмешкай павярнулася да Наташы і зрабіла знак паўтарыць.

Гэта быў посьпех, якога яшчэ ні разу ня ведалі ўдзельнікі хору. Наташа з Тацянай выходзілі з клюбу амаль апошнімі, знарок затрымаўшыся ў гардэробнай: усхваляваная Наташа баялася, каб хто не падумаў, што яна выбегла першай, жадаючы пакрасавацца перад глядачамі. Абедзьве сяброўкі маўчалі, перабіраючы ў памяці ўсё, што было ў гэты незабыўны вечар. Трымаючы Тацяну пад руку, Наташа моцна, да болю, сьціскала яе локаць... Яна ўся нібы гарэла ад хваляваньня... Як-жа, аднак, усё добра склалася!.. Яна ўжо ведала ў жыцьці трывогі й няўдачы, ведала сьлёзы расчараваньня й смутак. А вось-жа, глядзі, усё мінула, утаймавалася, і на сэрцы так хораша, сьветла... Цікава, ці слухалі сяньня яе выступленьне Мікола Сініцкі, Якаў Міхайлавіч, Лабуда, усе яе сябры па брыгадзе? Ці бачыў той чарнявы, хвалёны «бог» электразваркі?

Сяброўкі выйшлі на двор. Цёмнае неба было ўсыпана ясьнымі, нейкімі па-асеньняму выразнымі зоркамі. Недзе сярод іх мігцела й найбольш яркая - зорка Вэнэра... Сьвятло ў дамох гарадка ўжо было патушана, і толькі зводдалек над рыштаваньнямі будоўлі зіхацелі электрычныя агні.

— Скажы, Тацяна, — пазіраючы на тыя далёкія агні, ціха спытала Наташа, — табе падабаецца тут, на будоўлі?

— Яшчэ, як! — трасянула кудзеркамі валасоў Тацяна. — А табе?

— Мне таксама падабаецца, — адказала Наташа.

Выходзячы з двара на вуліцу, якая ў гэты позьні час ужо ледзь асьвятлялася бледным сьвятлом ліхтароў, сяброўкі заўважылі на тратуары постаці трох незнаёмых юнакоў. Усе трое заўзята курылі цыгаркі і аб нечым ціха размаўлялі. Убачыўшы дзяўчат, юнакі прымоўклі і разам, нібы па камандзе, павярнуліся да іх.

— Яна, — зьвяртаючыся да сяброў, ціха шапнуў адзін з хлапцоў. — Зорка Вэнэра...

Сяброўкі зрабілі выгляд, што не пачулі гэтых слоў, і хутка пакрочылі. Хлопцы моўчкі адразу-ж рушылі ўсьлед за імі. Дзяўчаты паскорылі крок, але хлопцы не адставалі. Жадаючы неяк адчапіцца ад незнаёмцаў, Тацяна пацягнула сяброўку на другі бок вуліцы. Але і юнакі адразу-ж зьвярнулі за імі.

Тады Наташа спынілася, рашуча павярнулася й строга спытала:

— Вы чаго прычапіліся? Што вам трэба?..

Хлопцы таксама спыніліся.

— Ня злуйцеся, дзяўчаты, — сказаў адзін зь іх, высокі, стройны, і нібы зьбянтэжыўшыся, пераступіў з нагі на нагу. — Мы толькі хацелі правесьці вас.

І тут Наташа раптам пазнала юнака: гэта быў той самы чарнявы зваршчык, што працаваў ля турбіны. Наташа і сама не змагла-б адказаць, што яна адчула ў гэты міг — трывогу ці радасьць, ці, можа, якія далёкія прадчуваньні. Толькі пачула, як неяк мацней стукнула сэрца ў грудзях. Стукнула й застыла ў прыемным зьняменьні.

— Але-ж мы зусім незнаёмыя, — уздрыгнуўшы голасам, але ўсё яшчэ строга сказала Наташа.

# Дзіва вартыя выснавы ўкраінскага навукоўца

Калі падобныя «кветачкі» зьяўляюцца ў украінскіх часапісах ці энцыкляпэдыях эміграцкіх выданьняў, дык іх можна прапушчаць незаўважанымі. Як гэта гаворыцца: «вольнаму воля, а шалёнаму поле!». Аднак трэба час-ад-часу напамінаць пра падобныя тэндэнцыйныя выскачкі, калі яны зьяўляюцца на бачынах міжнародных ці нацыянальных заходняэўрапэйскіх або амэрыканскіх навуковых часапісаў.

У томе XVIII часапісу **«The American Slavic and East European Review»** за 1959 год быў апублікаваны артыкул «Швайпольт Фіоль. Першы славянскі друкар кірылічным шрыфтам» — артыкул украінскага «навукоўца» Аляксандра Сокольшына, супрацоўніка Манускрыптнага аддзелу Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэкі. З дасьледчага пункту гледжаньня гэты артыкул ня прыносіць нічога новага. У ім паўтараюцца некаторыя паложаньні ранейшых досьледаў. Новым зьяўляецца штучна прыплеценая канцэпцыя ня толькі пра ўкраінскі «нацыянальны характар» дзейнасьці Швайпольта Фіоля, але наагул пра «ўкраінскі Ўсход» з часоў Швайпольта Фіоля й у далейшым цягу гісторыі.

Як ведама, Швайпольт Фіоль, што й прызнае Сокольшын, быў Немцам з Нойштадту (Франконія), асеўшы ў Кракаве на правах кракаўскага грамадзяніна каля 1479 году. У 1491 годзе ён надрукаваў тут некалькі царкоўных кнігаў (ведама 5) у старой царкоўна-славянскай мове. Няведама, з чые ініцыятывы пачаў гэтую дзейнасьць Швайпольт Фіоль. Ведама, што ў 1489 годзе ён атрымаў адмысловы прывілей ад караля Казіміра за канструкцыю вадзяной помпы, а таксама, што ў 1491-1492 гг. за гэтую сваю дзейнасьць ён быў прыцягнуты да адказнасьці перад Інквізыцыяй кракаўскае Каталіцкае царквы. Ягоныя кнігі былі спаленыя, а сам Швайпольт Фіоль мусіў падпісаць дэклярацыю, што больш ня будзе займацца падобнай «гэрэзіяй». З гэтага вынікае, што Швайпольт Фіоль ня меў спэцыяльнага даручэньня ад караля Казіміра на друкаваньне кнігаў. Магчыма, што ён быў зьвязаны зь Літоўскай вышэйшай праваслаўнай герархіяй або з праваслаўнымі Ліцьвінамі, што знаходзіліся пры двары Казіміра ў Кракаве. Аднак гэтае пытаньне застаецца нявысьветленым. Як прызнае й А. Сокольшын, у кнігах Швайпольта Фіоля фігуравалі пераважна ілюстрацыі, у тым ліку й крыжы з Ісусам Хрыстом, ня грэцка-славянскага, але нямецкага характару. Гэта наводзіць на думку, што Швайпольт Фіоль друкаваў царкоўна-славянскія кнігі з уласнае ініцыятывы, у камэрцыйных мэтах, з чым згодны ў вадным месцы й А. Сокольшын.

Аднак гэтыя неразьвязаныя пытаньні А. Сокольшын намагаецца вырашыць назаўсёды й вырашыць іх «паўкраінску». Ён цьвердзіць, што Швайпольт Фіоль зьяўляецца запраўдным «бацькам украінскага друку», падганяючы пад гэта наагул разьвіцьцё друку, культуру й нацыянальнае жыцьцё Вялікага Княства Літоўскага. Ды А. Сокольшын зусім прамоўчвае існаваньне гэтае дзяржавы. Месца ВКЛ тут займае як-бы «Вялікая Украіна». Беларусы для яго зусім адсутнічаюць.

У сувязі з гэтым А. Сокольшын намагаецца ўпэўніць чытача ў тым, што Швайпольт Фіоль ня толькі пасьвяціў сваю дзейнасьць для «Украінцаў», але й друкаваў «украінскія» царкоўна-славянскія кнігі пад апякунствам «Украінцаў». Гэтую сваю тэзу ён асноўвае, папершае на тым, што Швайпольт Фіоль друкаваў кнігі у мове, «зразумелай для Украінцаў гэтага часу». Аднак ведама, што кнігі Швайпольта Фіоля друкаваліся ў царкоўна-славянскай мове, якая ня была ні ўкраінскай, ні расейскай, ні беларускай. А. Сокольшын знаходзіць і тут выхад, цьвердзячы, што ў кнігах Швайпольта Фіоля было шмат словаў «украінскай народнай мовы». У другім выпадку ён наагул ставіць знак роўнасьці між царкоўна-славянскай і ўкраінскай мовамі. Далей «украінскасьць» кнігаў Швайпольта Фіоля А. Сокольшын бачыць у тым, што ў гэтыя кнігі трапілі «ўкраінскія Сьвятыя» ды што характар шрыфту гэтых кнігаў быў запазычаны з «украінскіх манускрыптаў пэрыяду Кіеўскай Русі». Дарэчы, у другім месцы ён цьвердзіць, што характар пісьма гэтых кнігаў нагадваў характар сучасных яму манускрыптаў. Бязумоўна, першую вэрсію тут трэба адкінуць і прыняць апошнюю, бо Швайпольт Фіоль карыстаўся ў першую чаргу сучасным яму славянскім пісьмом, і перадусім пісьмом ВКЛ, і ня шукаў спэцыяльна «старых украінскіх манускрыптаў». Нарэшце «ўкраінскасьць» кнігаў Швайпольта Фіоля А. Сокольшын бачыць у тым, што яны «вельмі» былі распаўсюджаныя на Украіне, ды што наагул Швайпольт Фіоль заснаваў друкарскую дзейнасьць на Ўкраіне. Для доказу ён тут прыгадвае заснаваньне друкарскіх цэнтраў у Галічыне й у Кіеве ў пачатку 17 стагодзьдзя! Выглядае такім чынам, што на ўкраінскі друк ня мела уплыву ні друкарская дзейнасьць Францішка Скарыны, ні Івана Фёдарава, што надрукаваў славутую Астроскую Біблію ў 1581 годзе.

Разам з успомненымі нацяжкамі А. Сокольшын гаворыць, што «ўкраінская» дзейнасьць Швайпольта Фіоля была абумоўлена тым, што ў Кракаве знаходзілася «моцная ўкраінская калёнія Праваслаўнай царквы» й тут вучылася многа студэнтаў-Украінцаў. Галоўнае-ж, што дзейнасьць Швайпольта Фіоля «фінансавалася багатымі праваслаўнымі літоўскімі сем'ямі ўкраінскага паходжаньня». Між тым, каб абгрунтаваць хоць крыху сваё апошняе цьверджаньне, ён прыбягае да аналёгіі «фінансаваньня» друкарскае дзейнасьці Івана Фёдарава князём Васілём Астроскім у канцы 16 стагодзьдзя.

Ня будзем спрачацца ў пытаньні «мноства ўкраінскіх студэнтаў» у Кракаве часоў Швайпольта Фіоля. Можа там і былі адзінкі. Аднак, што тычыцца «праваслаўнае калёніі», дык такая калёнія магла быць толькі праваслаўных Ліцьвіноў, што былі прадстаўнікамі ад ВКЛ пры каралеўскім двары, спасярод якіх, ведама, маглі быць і Ўкраінцы. Канцэпцыя-ж пра «фінансаваньне» дзейнасьці Швайпольта Фіоля павісла ў паветры, ды гэтыя «сем'і ўкраінскага паходжаньня» — князі Астроскія таксама былі Ліцьвінамі, што аселі на Валыні пасьля падбіцьця апошняе Вялікім Княствам Літоўскім.

Найбольшыя «навуковыя здольнасьці» А. Сокольшын паказаў, залічаючы й Францішка Скарыну да «ўкраінскіх першадрукароў». А. Сокольшын не пагаджаецца з расейскім гісторыкам Простовам у тым, што Фр. Скарына запачаткаваў «украінскае друкарства». Хоць А. Сокольшын і ня мае ніякае слушнасьці, аднак гэта ягоная прыватная справа. Нас цікавіць тут тое, што ён адносна Фр. Скарыны й ягонае дзейнасьці выказаў тупы шавінізм. А. Сокольшын зазначае, што Фр. Скарына быў з **Полацку**, вучыўся ў Балёніі (?) й Кракаве, друкаваў кнігі царкоўных пісаньняў у Празе й Вільні, пераклаўшы іх «у мясцовую славянскую мову таго часу». У якую гэта мову? А. Сокольшын нічога пра гэта не гаворыць, паясьняючы толькі: «... у старую царкоўна-славянскую» (?!). Далей ён паясьняе, што выданьні Скарыны былі «аздобленыя славянскім арнамэнтам». Ён заключае: «З нашага агляду, аднак, мы можам бачыць, што першая друкарская традыцыя Ўкраіны была запачаткаваная Швайпольтам Фіолем у Кракаве ў 1491 годзе, які разам з Скарынай і Федаровічам (Іван Фёдараў) ёсьць тры карыфэі пачатку ўкраінскага друку й украінскай культуры наагул».

Здорава! Як маглі сканстатаваць, канцэпцыя А. Сокольшына пра Швайпольта Фіоля як «бацьку ўкраінскога друку» — гэта чыстая фантазія, збудаваная на вадзе. Ведама, кнігі Швайпольта Фіоля былі прызначаныя для некага, і ў першую чаргу яны былі прызначаныя для праваслаўнага жыхарства Вялікага Княства Літоўскага. Аднак-жа ВКЛ ня было «Украінай». Відавочна з гэтым згодны й А. Сокольшын, а таму, каб высунуць сваю няіснаваўшую тады «Украіну» на гістарычны шлях, ён сьведама прамоўчвае існаваньне Вялікага Княства Літоўскага, у складзе якога ўкраінскія землі уважаліся звычайнай правінцыяй. Ды наагул-жа кнігі Швайпольта Фіоля ня

**(Заканчэньне на 8-ай бач.)**

# Каханьне — мацней за сьмерць

Яшчэ адна ахвяра за волю Бацькаўшчыны-Беларусі — самагубства ў месьце Кан, на абшарах волялюбнай Францыі, беларускага пісьменьніка Ўсевалада, сына Ігнатавага Краўчанкі, зь вёскі Каплічы на Бабруйшчыне.

Усевадала Краўчанку я ведаў асабіста на працягу гадоў каля дзесяцёх. У трыццатых гадох мне прышлося працаваць у габінэце маладога аўтара пры Доме Беларускіх Савецкіх Пісьменьнікаў і Паэтаў. Першыя творы Ўсевалада ня міналі гэтага габінэту таксама. Кузьма Чорны, які быў загадчыкам габінэту й кіраўніком кансультацыі па прозе й драматургіі, аднаго разу пазнаёміў мяне зь юнаком, **«які падае надзеі, што зь яго выйдзе беларускі пісьменьнік...»**

Гэта быў Усевалад. Перш-на-перш, мне кінулася ў вочы проста дзіўная мяккасьць аблічча Краўчанкі — ветлівая, ад усёй душы, усьмешка, калі яму прыходзілася ўсьміхнуцца, ласкавы позірк цёмна-шэрых, як-бы крыху зеленаватых, вачэй, у якіх, адначасна, стаяла нейкая рамантычная задуменнасьць.

Усевалад Краўчанка наагул вырозьніваўся з той шэрай масы маладых аўтараў, якія наведвалі габінэт...

У далейшых спатканьнях на літаратурных вечарох, дыспутах, у рэдакцыі, на сходах заўсёды вычувалася з боку Усевалада, па-першае, сьціпласьць. Ён ніколі не пхаўся наперад, не выступаў з прамовамі. Больш за ўсё яго можнаназваць маўклівым, а ў такіх кіпіць унутры. А па-другое і гэта было асноўнай рысай ягонага характару, у ягоных кароткіх рэпліках і заўвагах **выяўлялася непасрэднасьць душэўных перажываньняў, шчырасьць,** — гэтакімі былі й ягоныя першыя творы, на якія зьвярнуў увагу майстар беларускай культуры, Кузьма Чорны; менавіта, **у іх быў адбітак чыстае беларускае душы.** Ён кахаў Беларусь! I, перачытваючы іх, мне ня раз прыходзіла ў галаву: **цяжка будзе табе пераламаць самога сябе!..**

Не пераламаў!

**«...За час майго падарожжа па Францыі я пазнаў значэньне слова — «свабода». Але, я не магу наважыцца застацца заграніцай... Сьмерць — адзінае вырашэньне драмы, якую я перажываю...»**

**Каханьне — мацней за сьмерць!** Усевалад наважыў лепш пасквітацца з апастылым жыцьцём, чым адмовіцца ад каханьня сваёй краіны Беларусі, свайго народу, учынак — рыцарскі! I мы скажам тут усьлед за Максімам Багдановічам:

«Ты прабач, Ты прымі свайго сына —
За цябе яму ўмерці дазволь»...

**Мікола Цэлеш**

# У БССР бязь зьменаў

**(Заканчэньне з 6-ай бач.)**

Зь ветрам разьвеяліся таксама партыйныя фразы аб матарыяльным зацікаўленьні калгаснага сялянства. Як адзначыў Мазураў, у шматлікіх калгасах зусім пагарджаюць прынцыпам матарыяльнага зацікаўленьня і гэтым зьніжаюць якасьць працы і прадукцыі. Калгасьнік і далей жыве ў нястачы, здадзены на ласку калгаснай бюракратыі, бо, як сьцьвярджае Мазураў, у калгасах вельмі часта ломяцца прынцыпы дэмакратыі.

Мазураў, зразумела, нават ня пробаваў уваходзіць у прычыны зла. Ён толькі абмежаваўся фразамі пра тое, што павінна партыя зрабіць, каб палепшыць паложэньне сельскай гаспадаркі. Паводля ягоных словаў, партыйныя арганізацыі на вёсцы павінны ўзмацняць арганізацыйную працу, калгасы і саўгасы павінны павялічыць прадукцыю і г. д. Як ведама — гэта песьня ня новая. Яе сьпявалі Мазураў і ягоныя папярэднікі на кожным партыйным зьезьдзе. Але стан сельскай гаспадаркі ад гэтага не паправіўся — дый не паправіцца, пакуль самі сяляне ня стануцца гаспадарамі зямлі.

Падсумоўваючы дасюлешнія «дасягненьні» савецкай гаспадарчай сыстэмы, можна з упэўненасьцяй сказаць, што той дабрабыт, які маскоўскія заправілы абяцаюць падсавецкім народам пасьля 20 год, у эру гэтак званага «пабудаванага камунізму» — гэта хвараблівая фантазія. Цьверджаньні аб хуткім стварэньні ў СССР умоваў, дзе ад кажнага будуць вымагаць «паводля магчымасьці» і кажнаму даваць «паводля патрэбы» выклікаюць у нас асацыяцыю з словамі камуністычнага ідэёляга акадэміка Струміліна, выказанымі ім ў пытаньні іншых савецкіх камуністычных «пераўтварэньняў» — у галіне выхаваньня чалавека камуністычнага грамадзтва. Гаворачы аб цяжкасьцях камуністычнага перавыхаваньня савецкай бюракратыі — паводля ягоных словаў «мяшчанства», Струмілін высунуў «ідэялягічна вытрыманы» тэзіс, што ад мешчаніна да сябры камуны шлях разьвіцьця далейшы, чымся ўжо пройдзены ад малпы да мешчаніна...

**М. С.**

### ПРА БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ

У часапісе Journal of Central European Affairs (ліпень 1961) зьмешчаны артыкул В. Андыка пра эканамічны аспэкт дапамогі расейскім і ўкраінскім уцекачом у Чэхаславаччыне па Першай сусьветнай вайне. У артыкуле (б. 182) падаецца статыстыка чэхаславацкага міністэрства замежных справаў: дапамогу атрымала 6 341 студэнт, сярод іх было 47 Беларусаў.

— А мы акурат і хацелі спачатку пазнаёміцца, — ужо сьмялей адказаў высокі юнак і, ступіўшы крок наперад, нечакана працягнуў Наташы руку. — Мяне завуць Юрка. А вас?..

Сама ня ведаючы, добра яна робіць ці дрэнна, Наташа, не вагаючыся, падала юнаку руку.

— А мяне — Наташа...

☆

Той памятны вечар зьявіўся як-бы нейкім рубяжом у жыцьці Наташы. Раптам праясьнілася й набыло выразнасьці ўсё, што да гэтага няпрыкметна для яе самой цапілася й расло ў яе душы: родным домам стала для яе будоўля. Вось раніцою, бяз чверткі восем, Наташа выходзіць на працу. Варта стаіцца дзе-небудзь збоку і паглядзець на яе ў гэты час. Наташа ідзе па вуліцы гарадка сваёй славутай паходачкай, шырокім, пружыністым крокам, із строгім тварам, з горда ўзьнятай галавой. На ёй чорны хлапцоўскі камбінэзон, шчыльна перахоплены поясам у таліі, каляровы касьнічок на галаве. Наташа крочыць па асфальце тратуару, паглядае вакол.

Гарадок ужо абудзіўся ад сну, усюды з дамоў выходзяць людзі ў спэцоўках, камбінэзонах, работніцкіх касьцюмах. Па бруку вуліцы ў напрамку электрастанцыі адзін за другім з шумам прабягаюць грузавікі. На дарозе скрозь ляжаць доўгія косыя цені ад высаджаных уздоўж вуліц маладых дрэў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вуліца гарадка канчаецца, і брукаваная дарога паварочвае налева, дзе зводдалек, каля Беразіны, ужо відаць рыштаваньні ДРЭС. Паварочвае й Наташа. Яна йдзе ўздоўж дарогі па роснай мурожнай абочыне... Пасьля таго выступленьня ў клюбе да Наташы адразу-ж прыстала, нібы прырасло, і другое імя — Зорка Вэнэра. Нібы згаварыўшыся, так пачалі зваць яе й сябры па брыгадзе, і брыгадзір, Якаў Міхайлавіч, і ўсе яе бліскія на будоўлі. А Мікола Сініцкі для зручнасьці вымаўленьня пачаў зваць Наташу проста Зоркай. Так зь яго лёгкай рукі й замацавалася за ёю гэтае імя.

Вось і цяпер яна йдзе й раз-по-раз чуе воклічы знаёмых, сяброў: Дзень добры, Зорка!», «Эй, Зорка, прыходзь сяньня ўвечары ў клюб!» Наташа адказвае на вітаньні, усьміхаецца...

Раптам твар яе становіцца строгім, на лобе рэзка выступаюць маршчынкі... Усё добра, але сяньня яна павінна разьвязаць такое цяжкае й складанае пытаньне. Пытаньне, ад якога, можна сказаць, будзе залежыць усё яе далейшае жыцьцё, яе лёс. Учора ў канцы зьмены інжынеру ўчастку раптам пазванілі з канторы, каб Наташа Лойка тэрмінова зьявілася да намесьніка начальніка ўпраўленьня Калюты. Як выявілася, выклікалі туды й яшчэ некалькіх маладых хлопцаў і дзяўчат зь іншых брыгад. Але ніхто зь іх ня ведаў, у чым была справа. I вось ім, дзесяці лепшым маладым будаўніком, прапанавалі ехаць на вучобу ў Ленінград, у тэхнічнае вучылішча, на адзяленьне электразваршчыкаў. Ехаць трэба было пасьлязаўтра, а сваю згоду яны павінны былі даць сяньня...

Як усё гэта было нечакана! Як цяжка было ёй наважыцца й прыняць пастанову. Многія хлопцы й дзяўчаты, якіх разам зь ёю выклікалі ў кантору, ня хісталіся ні хвіліны й з радасьцю адразу-ж далі згоду ехаць. Запраўды, гэта ўсё было так прывабна — паехаць у Ленінград, вучыцца, стаць высокакваліфікаваным майстрам, «богам» электразваркі... Яна добра разумела, што такое здараецца ня часта, што шчасьце на гэты раз само йшло ў рукі, варта было ёй толькі сказаць «так». Але Наташа не магла наважыцца. Ну, добра, яна паедзе, але як-жа тады яе пляны жыцьця, яе даўнія мары — мэдыцынскі інстытут, муж — лётчык, маленькі гарадок на поўначы?..

Наташа пакутліва моршчыць лоб, — хоць-бы хто-небудзь, разважлівы, разумны, быў зараз побач зь ёю, дапамог ёй добрай парадай. Скажам, яе першы настаўнік тут, на будоўлі, Іван Пятровіч Лабуда або інжынер участку Канстанцін Сьцяпанавіч... Раптам наперадзе, крокаў за дваццаць, Наташа ў групе мужчын заўважае Юрку. Яго высокая, тонкая постаць вылучаецца з усей групы. Наташа ўздрыгнула — як-жа яна не падумала пра таго, хто цяпер стаў яе першым вялікім другам, зь якім яна ў вапошні час так моцна сябравала? Наташа паскорвае крок і аклікае Юрку.

Юнак азіраецца, і твар яго адразу-ж асьвятляе добрая, сяброўская ўсьмешка. Ён прывітаў яе ўзьнятай рукой і, саступіўшы ўбок із сьцежкі, каб прапусьціць сяброў, чакае Наташу.

— Дзень добры, Наташа, — радасна вітаецца Юрка. Але, убачыўшы яе твар, ён таксама хмурнее.

— Ты чуў, Юрка?.. — ідучы поруч зь ім, пытае Наташа.

— Чуў, усё ведаю, — апусьціўшы галаву, хмура гаворыць Юрка.

— Дык чаму-ж ты маўчыш? Ехаць мне ці ня ехаць?.. — Наташа ўся захвалявалася, узяла яго за руку: сэрцам яна адчувае, што яго парада будзе і яе пастановай.

Нахмураны, Юрка маўчыць, пазірае некуды перад сабой, паглыбіўшыся ў думкі. Відаць, што нейкія сумляваньні трывожаць яго, не даюць спакою. Наташа нецярпліва пазірае яму ў вочы, прагне хутчэй пачуць яго слова.

— Трэба ехаць, — выціскае зь сябе нарэшце Юрка. — Абавязкава едзь, не прапускай выпадку. Толькі...

— Што толькі, Юрка? — сьпяшаючыся, пытае Наташа.

Юнак яшчэ ніжэй апускае галаву, яшчэ больш хмурыцца.

— Толькі ты павінна паабяцаць... што не забудзеш мяне... што ня зрадзіш нашай дружбе.

— I ўсё? — з палёгкай выдыхнула Наташа.

— А што-ж яшчэ? — ускінуўшы галаву, глядзіць ёй у вочы юнак.

— Дзякуй табе, — зь цяплынёй сустрэўшы яго позірк, гаворыць Наташа. — Я паеду... I я абяцаю, што не забуду, ня зраджу... А цяпер ідзі, даганяй сваіх.

— Мы-ж з табою яшчэ ўбачымся? — пытае Юрка. — Ты прыходзь увечары ў клюб. Толькі-ж абавязкова! — наказвае Юрка і доўга трымае ў сваёй руцэ яе тонкую, халодную руку.

I вось Наташа зноў ідзе адна. Яна ўсьміхаецца: усе завуць яе Зорка Вэнэра... А кажуць-жа, што хто нарадзіўся пад гэтай зоркай, будзе ў жыцьці шчасьлівы. Можа й яна нарадзілася пад гэтай шчасьлівай зоркай?..

На душы ў Наташы так хораша, спакойна. Гэта праўда, жыцьцё — складаная рэч, але Наташа цяпер разумее, што нават найлепшыя пляны асабістага жыцьця ня могуць заставацца непарушнымі: гэта так добра, што чалавек вольны мяняць іх па свайму жаданьню. Скажыце, калі ласка, дзе, у якім законе запісана, што яна, Наташа Лойка, адна зь лепшых такелажніц будоўлі, абавязкова павінна вучыцца ў мэдыцынскім інстытуце, быць лекарам? I ўжо зусім незразумела, чаму яе муж абавязкова павінен быць лётчыкам? Ці-ж які-небудзь лётчык у сьвеце можа зраўняцца... Не, вядома, яна не маленькая й разумее, што ёсьць недзе на сьвеце цудоўныя й прыгожыя хлопцы-лётчыкі. Але Наташа ня мае да іх ніякіх прэтэнзіяў. Няхай яны сабе на здароўе лётаюць на сваіх хуткасных самалётах, няхай любяць сваіх каханых. А Наташы патрэбен адзін вось гэты чарнявы зварщчык. I больш ніхто на сьвеце ёй не патрэбен!..

Вось і прахадная. Наташа вешае на цьвічок табельнай дошкі бляшаны кругельчык із сваім работніцкім нумарам і выходзіць на дзядзінец будоўлі. Яна йдзе праз увесь двор сваёй пружыністай паходкай, з горда ўзьнятай галавой...

I ў гэты час гучны, басавіты гудок агалошвае ўсё наваколле, плыве над будоўляй, над маладым ранішнім гарадком, над прырэчнымі лугамі й далёкай дубровай па той бок Беразіны.

Пачынаецца новы працоўны дзень.

# Зь беларускага жыцьця

## У ЗША

### СПАТКАНЬНЕ З ГЕНЭРАЛЬНЫМ ПРАКУРОРАМ Л. ЛЕФКОВІЦАМ

2-га жніўня сёлета ў гатэлі «Камадор» адбылася сустрэча прадстаўнікоў Нью-Ёрскіх нацыянальных групаў з Генэральным Пракурорам Луісам Лефковіцам, кандыдатам у мэры места Нью-Ёрк ад Рэспубліканскае Партыі.

Беларусоў рэпрэзэнтаваў на сустрэчы старшыня Галоўнае Управы БАЗА спадар К. Мярляк.

### БЕЛАРУСКІЯ СУПАЛКІ

У беларускай прэсе часта прыгадваецца пра грамадзка-палітычную дзейнасьць беларускае эміграцыі, што апынулася ў ЗША ў выніку 2-ое Сусьветнае вайны. Эміграцыя гэтая выявіла сябе, аднак, ня толькі здольнаю й творчаю ў розных галінах грамадзка-палітычнага жыцьця, але й вельмі энэргічнаю й актыўнаю ў галіне гандлю ды гаспадаркі. Шмат зь беларусоў мае ўжо тутка свае варштаты, прадпрыемствы, крамы й супалкі, аб якіх мала, або й зусім ніхто ня ведае.

Гэтак, прыкладам, у Нью-Ёрку існуюць на сяньня ўжо аж тры беларускія супалкі нярухомае маемасьці, якія маюць у Вільмсбургу (Бруклін) чатыры вялікія дамы, вартасьць якіх перавышае паўмільёна даляраў. Усе гэтыя беларускія супалкі маюць беларускія назовы. Колькі год таму былі зарэгістраваны супалкі «Менск Рэалты Ко» й «Пінск Рэалты Ко», а нядаўна паўстала яшчэ адна «Слуцак Рэалты Ко». Собсьнікамі гэтых супалак ёсьць сябры БАЗА сп. сп. В. Юрцэвіч, Я. Груцько, Я. Дубяга, М. Сільвановіч, М. Заморскі, П. Зыбайла, К. Мярляк і А. Губэрт.

### БЕЛАРУСКАЕ ВЯСЕЛЬЛЕ

У нядзелю 10-га верасьня ў Саборы БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку Яго Высокапрэасьвяшчэнства Уладыка Васіль даў шлюб маладой беларускай пары — студэнтам Лювэнскага ўнівэрсытэту Людміле Войтэнка й Уладзімеру Бакуновічу. Пасьля шлюбу, бацькамі маладое — др-ствам Войтанкамі было зладжанае багатае вясельнае прыняцьце на 200 чалавек у залі Шака ў Саўт-Рывэр.

Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» жадае маладому сужэнству сямейнага шчасьця і посьпехаў у працы на грамадзкай ніве.

### БЕЛАРУСКІ СЬЦЯГ У ПАРАДЗЕ АМЭРЫКАНСКАГА ЛЕГІЁНУ

11-га верасьня сёлета ў месьце Дэнвэр (Калярада) адбыўся вялікі парад ведамае патрыятычнае арганізацыі ЗША — Амэрыканскага Легіёну, у часе якога дэманстрантамі быў несены, у шэрагу 13 сьцягоў іншых паняволеных Савецкаю Расеяю народаў, хіба ў пяршыню ў гісторыі А. Л. і беларускі бел-чырвона-белы сьцяг, зроблены й высланы ў Дэнвэр, на просьбу Легіёну, Галоўнай Управай Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Першым, паводле альфабэтычнага парадку, парадаваў у паходзе сьцяг Альбаніі, другім — Баўгарыі, трэйцім — Беларускі, а тады — Казакійскі, Чэхаславацкі, Эстонскі, Грузінскі, Вугорскі, Лацьвійскі, Летувіскі, Польскі, Румынскі й Украінскі. Думка улучыць у парад Амэрыканскага Легіёну сьцягі паняволеных бальшавікамі народаў, належыць сп. Бобу Рэмзі, сябры рэдакцыі часапісу «Дэнвэр Кэтлік Рэджыстар».

### ПАШЫРАНАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ АКРУГІ БАЗА НЮ-ЁРК

У пятніцу 15-га верасьня, а гадз. 7-ай увечары, у памешканьні БАЗА адбылося пад старшынствам сп. Д. Клінцэвіча пашыранае паседжаньне Акруговае Управы БАЗА, на якім быў абмяркоўваны плян працы Акругі на будучы год, справа беларускае школы БАЗА, арганізацыя драматычнага гуртка ды інш. На паседжаньні быў гэтаксама усталены й скаардынаваны календар імпрэзаў на бягучы сэзон, заплянаваных Акруговаю й Галоўнаю Управамі БАЗА й іншымі беларускімі арганізацыямі.

### МЭМАРАНДУМ ГАЛОЎНАЕ УПРАВЫ БАЗА

25-га верасьня сёлета, Галоўная Управа БАЗА злажыла адмысловы мэмарандум шэфам дэлегацыяў на 16-ю Асамблею Задзіночаных Нацыяў, у якім яна прапануе Асамблеі абмяркаваць гэткія справы:

1) Правесьці досьледы камуністычнае агрэсыі ў Беларусі ды іншых паняволеных савецкіх краінах.

2) Дамагацца свабодных выбараў пад кантролем Задз. Нацыяў у Беларусі.

3) Запрапанаваць прыняцьце рэзалюцыі аб адыйходзе савецкага войска й палітычнае паліцыі зь Беларусі, ды аб звароце зьняволеных і дэпартаваных камуністычнымі Беларусаў на Бацькаўшчыну.

### ПАСЕДЖАНЬНЕ СТАТУТОВАЕ КАМІСІІ

23-га верасьня адбылося паседжаньне Статутовае Камісіі арганізацыі Набыцьця Беларускага Цэнтру Адпачынку, на якім камісія абмяркавала тэкст статуту згаданае арганізацыі. Тэкст гэты будзе запрапанаваны на абмяркаваньне й зацьверджаньне сябром на наступным агульным сходзе арганізацыі.

### ПАШЫРАНАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ ГАЛОЎНАЕ УПРАВЫ БАЗА

30-га верасьня адбылося пашыранае паседжаньне Гал. Управы БАЗА, старшыняў аддзелаў Нью-Ёрк і Нью-Брансьвік і беларускіх газэтных працаўнікоў-журналістых. На паседжаньні гэтым былі дакладна абмяркаваныя рэальныя магчымасьці выдаваньня сталае беларускае газэты ў ЗША.

У выніку дыскусіі — пастаноўлена аднавіць у бліжэйшым часе орган БАЗА — газэту «Беларус». Першы нумар пастаноўлена выдаць у лістападзе.

Была выбраная рэдакцыйная калегія газ. «Беларус» у складзе: сп-ня Н. Арсеньнева, сп. В. Шчэцька, др. В. Тумаш, сп. А. Шукелойць, др. В. Кіпель, сп. Ю. Станкевіч, і Н. Панькоў і, з ураду, старшыня Галоўнае Управы БАЗА.

**(Паводля Бюлетэню Галоўнае Управы БАЗА)**

☆

### БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ І МАСТАЦТВА ПАЧЫНАЕ НОВЫ НАВУКОВЫ СЭЗОН

15-га верасьня адбылася першая навуковая зборка БІНіМ'у сэзону 1961-62 гг.

Пасьля ўступнага слова Др-а В. Тумаша, праф. А. Адамовіч прачытаў рэфэрат аб Канфэрэнцыі ў справе савецкага каляніялізму, якая адбылася сёлета ў Мюнхэне (гл. «Бацькаўшчына» № 32 (567).

Праф. Адамовіч дэталёва прааналізаваў прабег канфэрэнцыі, водгукі на канфэрэнцыю ды ейнае значэньне. Апрача гэтага дакладчык падзяліўся з прысутнымі ўражаньнямі з падарожжа ў Эўропу.

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ У «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

## У КАНАДЗЕ

### НА ВЫСТАЎЦЫ АБ БЕЛАРУСАХ

На сёлетняй Канадзкай Нацыянальнай Выстаўцы ў Таронта, што адбылася ў днёх 18 жніўня — 4 верасьня, у Антарыйскім правінцыянальным будынку меў свой асобны стэнд і нядаўна створаны Антарыйскі Аддзел Грамадзянства й Іміграцыі, падобна папярэдні гадом, з мэтаю растлумачэньня мясцоваму англамоўнаму насельніцтву аб значэньні новапрыбылых і іхным укладзе ў эканоміку Канады (пасьля вайны прыбыло звыш 2-х мільёнаў імігрантаў). На ўсю сьцяну вялікай мапе былі пададзеныя краіны, адкуль прыбывалі новыя жыхары на пасяленьне сюды, і сярод іх віднелася й Беларусь.

### ЯШЧЭ РАЗ ПРА ПРЫНЯЦЬЦЕ ДЛЯ ПРЭМ'ЕРА КАНАДЫ

Як ужо падавала «Бацькаўшчына» ў № 37 (572) 10-га верасьня гг., этнічныя групы Таронта й ваколіцаў ладзяць прыняцьце для Прэм'ера Канады в. дэст. Джона Дыфэнбэйкэра й місіс Дыфэнбэйкэр, якое мела адбыцца 21-га кастрычніка ў «Мэсы Гол». Але, як нядаўна сталася ведама, такое прыняцьце адбудзецца **месяц пазьней**, г. зн. у сераду 22-га лістапада, паміж гадзінамі 8-ай і 11-ай увечары, на тэрыторыі Канадзкай Нацыянальнай Выстаўкі ў «Квін Элізабэт Гол». Беларусы Таронта й ваколіцаў заклікаюцца прыняць масавы удзел на згаданай маніфэстацыі.

### ПЕРШАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЭТНІЧНАЯ ВЫСТАЎКА (3. 10. — 7. 10. 61)

У чацьвер 21 верасьня сёлета адбылася пры Інтэрнацыянальным Інстытуце ў Таронта прэсканфэрэнцыя ў справе Нацыянальнай Этнічнай Выстаўкі ў днёх 3-7 кастрычніка. Прэсавую канфэрэнцыю правёў сп. Рэй Дэспатовіч. Між іншага было пададзена да агульнага ведама, што выстаўка адбудзецца ў «Пэлэс П'ер» на Саннісайд, Таронта пад патранатам Лейтэнанта-Губэрнатара Макэя, Міністра Іміграцыі Ярэмкі й мэра Таронта Філіпса, ды што ў ёй бярэць удзел звыш 30 этнічных групаў з рознымі экспанатамі, фальклёрам, а таксама і з канцэртнымі праграмамі. У гэтыя дні прадбачаецца й спэцыяльныя дні: Заходня-Эўрапэйскі Дзень; Балцкі й Скандынаўскі Дзень; Усходня-Эўрапэйскі Дзень; Цэнтральна-Эўрапэйскі Дзень ды Азіяцкі й Блізка-Усходні Дзень. У вапошні дзень выстаўкі ладзіцца Баль усіх Нацыяў з каранацыяй Каралевы Балю. Як падаў да ведама Альбэрт Насон, Дырэктар выстаўкі, у наступным годзе 2-ая выстаўка мае адбыцца ў чэрвені у большым будынку на тэрыторыі Канадзкай Нац. Выстаўкі. Пажадана, каб і Беларусы Таронта й ваколіцаў маглі скарыстаць з такой нагоды ды паказалі свае найлепшыя бакі, падобна украінцам і іншым.

# Побыт Я. П. Уладыкі Ч. Сіповіча ў Мюнхэне

15-га кастрычніка быў урачыстым днём для Беларусаў, якія жывуць у Мюнхэне й ваколіцах. У гэтым дні сюды прыбыў з Рыму Яго Прэасьвяшчэнства Эпіскап Часлаў Сіповіч на пастырскую візытацыю.

Перад касьцёлам Сьвятой Анны, у якім у жнівені мінулага году Яго Прэасьвяшчэнства быў хіратанізаваны, Дастойнага Гасьця сустрэла ўся беларуская калёнія з айцом Ул. Салаўём на чале, пры чым дзевяностагадовы сп. Тарасевіч падаў яму хлеб і соль, а тры дзяўчынкі Дудзіцкія — букет бел-чырвона-белых кветак. Пасьля прывітаньня, Уладыка ў асысьце айца Салаўя адправіў урачыстую Багаслужбу і сказаў кароткую, але зьмястоўную пропаведзь.

Падчас Багаслужбы памастацку сьпяваў хор клерыкаў з Кэнігштайну. Беларускі рэлігійны гімн «Магутны Божа» у іхным прыгожым выкананьні зрабіў на прысутных Беларусаў вялікае ўражаньне.

Пасьля Багаслужбы ў прыгожай залі Кольпінгаўзу зыйшліся ўсе Беларусы, дзе Ўладыка зрабіў вельмі цікавы даклад аб сваім падарожжы па ЗША, дзе ён наведваў беларускія асяродкі. Сустрэча з Мюнхэнскай беларускай калёніяй адбылася ў цёплай і мілай атмасфэры.

Вечарам Уладыка сустрэўся з сябрамі мюнхэнскага сэктару Рады БНР. Падчас гэтай сустрэчы гаварылася аб рэлігійных і грамадзкіх праблемах нашай эміграцыі.

Адразу пасьля гэтай сустрэчы Ўладыка выехаў назад у Рым, дзе ён бярэ актыўны ўдзел у падрыхтоўчых працах Сабору Каталіцкіх Цэркваў.

Гэтая — нажаль кароткая сустрэча зь Яго Прэасьвяшчэнствам была ня толькі карыснай для нашага грамадзкага жыцьця і дзейнасьці, але таксама пакінула трывалы і мілы ўспамін.

**Беларус зь Мюнхэну**

# *Прыклады для насьледваньня*

Спадарства Кацярына і Васіль Захаркевічы дачакаліся радаснага мамэнту. Дачка Валя сёлета скончыла гімназію «Jamaica Vocational High School». З усіх прадметаў яна найлепш адзначылася з стэнаграфіі, што дапамагло ёй лёгка атрымаць працу ў банку — «Bankers Trust Company». За добрую працу ў банку Валяй зацікавіліся працадаўцы і цяпер пасылаюць яе за свой кошт тры разы ў тыдзень на студыі ў галіне банкавай спэцыяльнасьці. Валя з гэтага вельмі задаволеная.

Другая дачка спадарства Захаркевічаў, Ліда, таксама вучыцца ў гімназіі, якую скончыла ейная сястра Валя.



Валя Захаркевіч

Трэба падкрэсьліць, што абедзьве дзяўчыны рэгулярна наведвалі беларускую школу ў Брукліне, ня гледзячы на вялікую адлегласьць ад месца іхнага жыхарства.



Крыстына Юрцэвіч

13-гадовая Крыстына, дачка спадарства Кацярыны і Васіля Юрцэвічаў, сёлета скончыла «Junior High School» на Брукліне. Крыстына была вельмі старанай вучаніцай як у амэрыканскай, так і ў сыботняй беларускай школе. Цяпер яна наведвае гіднаўзію імя Вашынгтон Ірвінг у Мангатане.

# Дзіва вартыя выснавы...

**(Заканчэньне з 7-ай бач.)**

мелі таксама распаўсюджваньня й вагі, як гэта ім прыпісвае А. Сокольшын. Ён навет сам ня мог знайсьці прыкладаў «упльыву» кнігаў Швайпольта Фіоля й наогул кнігадрукарскага майстэрства на ўкраінскі друк, не гаворачы ўжо пра беларускі ці расейскі друк. Пералічэньне наяўнасьці гэтых кнігаў у тых ці іншых манастырах і бібліятэках яшчэ нічога не гаворыць пра іхны ўплыў на пазьнейшае кнігадрукаваньне. Тымчасам добра ведамы й навукова даказаны вялікі ўплыў друкарскага майстэрства Францішка Скарыны як на пазьнейшае беларускае, так на ўкраінскае й расейскае кнігадрукаваньне.

Вельмі дзівіць аднак факт залічэньня Францішка Скарыны да «Ўкраінцаў». Няўжо А. Сокольшын уважае, што ён піша для эміграцкае ўкраінскае газэты ці энцыкляпэдыі, у якіх таксама Фр. Скарына разам з Сымонам Будным і Васілём Цяпінскім уважаецца «Ўкраінцам»? Дзівіць таксама факт апублікаваньня такое хвалыньшчыны ў паважным навуковым часапісе, якім зьяўляецца **Амэрыканскі славянскі й Усходня-Эўрапэйскі агляд.**

Ведама, думкі й тэндэнцыі А. Сокольшына разгадаць вельмі лёгка. Яны падобныя да думак і тэндэнцыяў многіх іншых украінскіх «навукоўцаў» і палітыкаў, што ў солі свайго шавінізму ня бачаць нікога й нічога іншага, апрача свае «Вялікае Ўкраіны». Апошнія, як ведама, ня супраць залічыць у сваю гістарычную «спадчыну» Вялікае Княства Літоўскае, перахрысьціўшы разам з гэтым Беларусаў на «Ўкраінцаў», ды накрэсьліць у парашуненьні зь Летувісамі свае «гістарычныя межы» дзесьці пад Менскам і г. д. Пры гэтай нагодзе варта прыпомніць выснаў вялікага ўкраінскага гісторыка Грушэўскага, які ў многіх выпадках зазначаў, што ў Вялікім Княстве Літоўскім Украіна была на правах падбітай зямлі й заўсёды такой уважалася.

**П. Урбан**

# Беларусаў гэта ня дзівіць

9-га кастрычніка ўвечары прэм'ер Галяндыі Дэ Куай запрасіў савецкага пасла ў Газе Панамарэнку ў памешканьне міністэрства замежных справаў і асабіста прачытаў яму пратэстную ноту з прычыны захаваньня савецкімі дыпляматаў у справе жонкі інжынэра Алякся Голуба. Голуб, які быў у групе савецкіх турыстых у Галяндыі, зьвярнуўся да галяндзкіх уладаў з просьбай даць яму правы палітычнага ўцекача. 9-га кастрычніка, калі група савецкіх турыстых — бяз Голуба — праходзіла пашпартны кантроль на Амстэрдамскім лётнішчы дзеля адлёту ў СССР, галяндзкая паліцыя запрасіла жонку Голуба ў асобны пакой, каб папытацца ў яе, ці варочаецца яна ў СССР бяз мужа на ўласнае жаданьне. У гэты час у пакой уварваліся працаўнікі савецкага пасольства на чале з паслом Панамарэнкам і пасьля кулачнага бою з паліцыяй схапілі жонку Голуба і замкнулі яе ў памешканьні савецкай кампаніі «Аэрафлёту» на лётнішчы. Ейны пашпарт застаўся у руках галяндзкай паліцыі, якая заявіла, што бяз пашпарту яна пакінуць Галяндыю ня можа. Панамарэнка і іншыя памочнікі трымалі пяць гадзін жонку Голуба ў памешканьні «Аэрафлёту». Тады, Панамарэнка запрасіў у памешканьне «Аэрафлёту» трох журналістых, у прысутнасьці якіх жонка Голуба заявіла: «Я хачу вярнуцца на бацькаўшчыну». Пасьля гэтага Панамарэнка быў запрошаны прэм'ерам Дэ Куаем, які заявіў яму пратэст супраць дзеяньняў савецкіх дыпляматаў, і паўтарыў, што галяндзкі ўрад гатовы вярнуць жонцы Голуба ейны пашпарт, як толькі галяндзкія ўлады будуць мець магчымасьць распытаць яе. Такая магчымасьць была дадзеная галяндзкім уладам, і калі жонка Голуба ў прысутнасьці свайго мужа пацьвердзіла, што яна запраўды дабравахвотна хоча вярнуцца на бацькаўшчыну, ёй былі вернутыя дакуманты й яна вылецела ў СССР. Панамарэнка таксама пакінуў Галяндыю адразу-ж пасьля скандалу, бышцам дзеля таго, каб узяць удзел у зьезьдзе КПСС.

На гэтым справа ня скончылася. Галяндзкі ўрад абвесьціў Панамарэнку «пэрсонай нон грата», што раўназначнае з дамаганьнем адкліканьня яго з становішча пасла ў гэтай краіне. У вадказ на гэта савецкі ўрад у ноце да галяндзкага ўраду заявіў, што ён адклікае Панамарэнку з Гаагі. Адначасова савецкі ўрад зазначыў, што галяндзкі пасол у Маскве Гэльб ня можа больш заставацца на сваім становішчы. 13 кастрычніка на дамаганьне галяндзкага ўраду Галяндыю пакінулі таксама савецкі гандлёвы аташэ Шыбаеў і другі сакратар пасольства Папоў, якія прыймалі актыўны ўдзел у бойцы на аэрадроме. Аляксею Голубу галяндзкі ўрад прызнаў правы палітычнага ўцекача.

Атрымаўся вялікі дыпляматычны скандаль. Але мы яго апісваем падрабязна яшчэ і зь іншых прычынаў. Уся галяндзкая прэса пісала, што савецкі пасол Панамарэнка захаваўся ў Галяндыі так, як бышцам ён быў у акупаванай савецкай краіне, і з прычыны гэтага выказвала сваё вялікае абурэньне і зьдзіўленьне. Нас, Беларусаў, аднак, паводзіны Панамарэнкі зусім ня дзівяць. Мы яго вельмі добра ведаем. Народжаны на Кубані, ён ад 1938 да 1941 году займаў становішча першага сакратара ЦК КП Беларусі. Пасьля вайны ён ачольваў у БССР розныя урадавыя функцыі. Такім чынам з выкананьнем ролі акупанта ён зьвыкся ўжо даўно. У страшныя гады ягонага беспасярэдняга кантролю над Беларусяй увесь беларускі народ добра адчуў ягоную «палітыку кулака». І калі цяпер на дыпляматычнай функцыі яго зноў пацягнула да «кулака», дык мы можам толькі паўтарыць старую народную мудрасьць: «Ваўка заўсёды ў лес цягне».

**А. З.**

### ДА ВЕДАМА НАШЫХ ПРАДСТАЎНІКОЎ

**З глeдзішча на артыкул аб Усеваладу Краўчанку ў ангельскай мове мы рассылаем на адрыс нашых прадстаўнікоў (у заакіянскія краіны лётніцкай поштай) большую колькасьць гэтага нумару «Бацькаўшчыны» зь ветлівай просьбай разаслаць лішнія экзэмпляры важнейшым газэтам і асобам, што цікавяцца беларускім пытаньнем.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**





**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не звaрочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**